# наша свабода

**№45(272) ВЫДАЕЦЦА З 25 ЛЮТАГА 2000 ГОДУ**

**17 ТРАЎНЯ 2002 году ПЯТНІЦА**



» Адрас: 220123, г.Мінск, а/с 103

» тэл. 2100-253, факс 2100-254

» E-mail: NPSvaboda@irex.minsk.by



http://www.svaboda.com

» КОШТ СВАБОДНЫ


## Мы ўжо загартаваныя

*Лідэр БСДГ(НГ) Мікола Статкевіч звярнуўся да калегаў з другіх партыяў з прапановай размеркаваць паміж сабой выбарчыя ўчасткі з мэтай падрыхтоўкі да мясцовых выбараў.*

***– Сп. Мікола, з чаго ўзнікла гэтая ініцыятыва?***

– З пачуцця, што шанс зноў гублецца, з адказнасці за лёс беларускай дэмакратыі. Ужо зараз ніхто не гаворыць пра байкот мясцовых выбараў. Відавочна, што калі ў нас не будзе сваіх людзей у мясцовых саветах, то не будзе шанцаў і на парламенцкіх выбарах. Да выбараў трэба рыхтавацца загадзя. Трэба дамагчыся, каб у кожнай акрузе быў адзін кандыдат ад апазіцыі. І гэта дазволіць нам, калі мы не будзем канкураваць паміж сабой, правесці агульную кампанію. Патрэбна пагадненне. Я неаднаразова звяртаўся да лідэраў вядучых правых партыяў Вячоркі і Лябедзькі і рабіў гэтую прапанову. Але па сутнасці адбываецца тое, што я назваў бы сабатажам: адказу няма. Прапаную нейкія «круглыя сталы», і недзе там позняй восенню выйсці на нейкія пагадненні, а магчыма і не. Але мы ўжо познімся, трэба ўжо працаваць у акругах з людзьмі. Трэба, каб выбаршчык бачыў альтэрнатыву. Я нядаўна быў на Гомельшчыне: ведаюць толькі двух палітыкаў – Шушкевіча ды Лукашэнку. Абодвух не любяць, але не бачаць альтэрнатывы. Каб гэтая альтэрнатыва ствараласся, трэба працаваць з людзьмі.

*Заканчэнне на стар.3*

# Маскоўскія вячоркі

## *Лукашэнка зноў «па-за гульнёй»*

*На пачатку тыдня ў Маскве адбыліся адразу два пампезныя мерапрыемствы ў рамках СНД. Так, у панядзелак прайшлі пасяджанні Еўразійскай эканамічнай супольнасці. А наступным днём кіраўнікі дзяржаваў сустрэліся ўсё ў тым самым Крамлі, але ўжо ў рамках Рады калектыўнай бяспекі СНД.*



Як вядома, Еўразійская эканамічная супольнасць замяніла іншае карпаратыўнае ўтварэнне, якое называлася Мытным саюзам. Замена, як паказаў час, была не толькі лінгвістычнай. Расія пры новым крамлёўскім кіраўніцтве заняла больш агрэсіўную пазіцыю і насамрэч спрабавала стаць свайго роду аб'яднаўчым цэнтрам. Праўда, карыстаючыся ўжо не столькі імперскімі, колькі эканамічнымі абцанкамі.

Галоўная дзеючыя суб'екты ЕўрАзЭс – Расія, Беларусь, Казахстан, Кыргызстан і Таджыкістан. А вось у якасці сталых назіральнікаў апынуліся Малдова (што шмат кім прагназавалася) і Украіна (што экспертамі разглядаецца як свайго роду сенсацыя). Рэч у тым, што Украіна заўсёды адзначалася павышаным скептыцызмам, калі размова заходзіла пра карпаратыўную эканамічную інтэграцыю. Зараз сітуацыя ў пэўнай ступені інакшая. З аднаго боку, выразна змянілася танальнасць геапалітычных размоў новага расійскага топ-менеджменту.

*Заканчэнне на стар.2*

## Тэмпы інфляцыі

У Беларусі ў красавіку спажывецкія цэны ўзраслі на 2,9 працэнта, тады як у сакавіку яны павялічыліся на 2,6 працэнта. З пачатку году спажывецкія цэны павялічыліся на 16 працэнтаў. Згодна з прагнозам ураду і Нацыянальнага банку, сёлета спажывецкія цэны павінны ўзрасці на 20–27 працэнтаў.

## Ёсць жа ў яго яшчэ песень...

Сотні тысяч беларусаў, пасталелых на песнях «Песняроў», перажываюць за лёс мастацкага кіраўніка гэтага самага папулярнага з беларускіх гуртоў, народнага артыста Беларусі і СССР Уладзіміра Мулявіна, які днямі трапіў каля Мінску ў аўтааварыю. На момант падпісання нумару музыка знаходзіўся ў рэанімацыі, і ягоны стан дактары па-ранейшаму характарызавалі як цяжкі.

Аварыя адбылася на Радуніцу, апоўдні 14 траўня. 61-гадовы музыка ехаў на сваім «Мерседэсе» па шашы Калодзішчы–Заслаўе. Раптам машыну «песняра», у якой ён ехаў адзін, выкінула з шашы, яна колькі разоў перакулілася і ўрэзалася ў дрэвы. Паводле начальніка ДАІ Леаніда Фармагея, аператыўна-следчая група выявіла, што Мулявін не справіўся з кіраваннем аўтамабілем «Мерседэс-420» на закругленні праезнай часткі, якая абазначаная знакам «небяспечны паварот». У выніку аўтамабіль выехаў на левую, па ходзе руху, узбочыну, і пры спробе кіроўцы вярнуцца на сваю паласу машыну занесла. Самая верагодная прычына аварыі – перавышэнне хуткасці.

Нягледзячы на жорсткасць гэтага дарожна-транспартнага здарэння (мулявінскі «Мерседэс» рамонту не падлягае), на момант прыезду на месца аварыі машыны «Хуткай дапамогі» Уладзімір Мулявін быў у прытомнасці. Са словаў ДАІшнікаў, жыццё яму ўратавалі дзве рэчы: ён быў прышпілены рэменем бяспекі, а «Мерседэс» – увогуле «надзейны аўтамабіль».

Мастацкага кіраўніка «Песняроў» адвезлі ў 2-ю клініку. Там пасля медычнага агляду высветлілася, што ў музыкі моцна пашкоджаны хрыбетнік (закрануты нават спінны мозг) і што тэрмінова неабходная аперацыя. Таму Мулявіна адтуль перавезлі ў Навукова-даследчы інстытут траўматалогіі і артапедыі, дзе артысту паставілі не вельмі суцяшальны дыягназ – «закрыты пералом, вывіх шостага пазванка, пашкоджанне спіннога мозгу з парушэннем функцый тазавых органаў, тэтрапарэз, рана патылічнай вобласці» – і зрабілі аперацыю.

Кірэй МАНУЙЛА



наша свабода

**Шаноўныя чытачы! З аўторка, 21 траўня, наша газета будзе выходзіць у новым афармленні і ў дзвюх фарбах.**

**ВЕСТКІ**



## Галандцы галасуюць за правых

Ультраправая партыя забітага галандскага палітыка Піма Фартэйна цалкам змяніла традыцыйны баланс сілаў у Нідэрландах, атрымаўшы другое месца на ўсеагульных выбарах, паведамляе *BBC*.

Паводле папярэдніх вынікаў, «Спіс Піма Фартэйна» заваяваў 26 з 150 месцаў у галандскім парламенце. За яго прагаласавалі 17% выбарцаў. Правячая левацэнтрысцкая кааліцыя на чале з Вімам Кокам, што знаходзілася пры ўладзе восем гадоў, пацярпела сур'ёзную паразу. Згодна з папярэднімі звесткамі, за лейбарысцкую партыю Кока прагаласавалі 16% выбарцаў, і ёй дастануцца ўсяго толькі 23 крэслы ў заканадаўчым органе краіны.

## «Ланцуг неабыякавых»

17 траўня скрадзены разам з Віктарам Ганчаром бізнесмен Анатоль Красоўскі адзначаў бы свой паўвекавы юбілей. Але амаль тры гады яго родныя нічога не ведаюць пра лёс свайго мужа, сына і бацькі.

Тыя, хто памятае Анатоля Красоўскага і іншых вядомых беларусаў, што прапалі без вестак, адзначаць гэты дзень па-свойму: 17 траўня з 13.00 да 14.00 Аб'яднаная грамадзянская партыя арганізуе «ланцуг неабыякавых людзей», які стане з партрэтамі А.Красоўскага каля універсаму «Цэнтральны» (Мінск, праспект Францішка Скарыны, 23).

## Не хапае кіслароду

Экіпаж Міжнароднай касмічнай станцыі перайшоў на рэзервовы варыянт атрымання кіслароду і адначасова спрабуе вызначыць паломку асноўнага генератара. Камандзір экіпажу Юсуф Ануфрыенка і два амерыканскія астранаўты цяпер выкарыстоўваюць для атрымання кіслароду адмысловыя цвёрдапаліўныя патроны. Як адзначае *Associated Press*, загаранне якраз такога паліва стала прычынаю пажару на станцыі «Мір» у 1997 годзе.

## У любы куток свету – за 5 даляраў

У выніку памылкі, што закралася ў камп'ютэрную сістэму *United Airlines*, наведнікі сайту гэтай амерыканскай авіякампаніі, сваім вачам не верачы, атрымалі магчымасць купіць білеты ў любы пункт свету ўсяго за 5 даляраў. Няспраўнасць хутка ліквідавалі, але 45 хвілін хапіла, каб некалькі дзесяткаў шчаслівчыкаў здабылі амаль дармовыя білеты. Прадстаўнікі авіякампаніі пацвердзілі, што ўсе купленыя білеты сапраўдныя, не паведаміўшы, колькі менавіта чалавек і куды палятуць за гэтыя грошы.

**НАДВОР'Е НА ЗАЎТРА**




Крыніца: **www.gismeteo.ru**

**Курс наяўнага даляра на «чорным рынку» 1775**

# Маскоўскія вячоркі

*Заканчэнне, пачатак на стар.1*

На месца адкрыта шавіністычных канцэпцыяў прыйшлі канцэпцыі «лакальных эканамічных выгадаў». З іншага боку, сама Украіна таксама прыйшла да разумення таго, што, пры ўсім жаданні ісці на Захад, асноўныя яе рынкі, як і раней, знаходзяцца на Усходзе.

Уладзімір Пуцін заявіў, што ЕўрАзЭс «паступова ператвараецца ў лакаматыў інтэграцыйных працэсаў». Ён адзначыў, што ад «нашага ўмення здымаць бар'еры на шляху супрацоўніцтва шмат у чым залежыць дабрабыт на вялізнай еўразійскай прасторы». Аднак куды больш красамоўна наконт перспектываў ЕўрАзЭс выказаўся Нурсултан Назарбаеў. Казахскі лідэр параўнаў Еўразійскую супольнасць з ЕС, мяркуючы, што з далучэннем Украіны і Малдовы гэтая карпаратыўная арганізацыя робіцца напраўду магутным і ўплывовым рэгіянальным інстытутам.

Дарэчы, вакол асобы Назарбаева разгарнуўся і адзін з самых яркіх канфліктаў. І віной таму, ясная рэч, беларускі прэзідэнт. Аляксандр Лукашэнка, як заўсёды, апынуўся па-за цяперашняй кулуарнай кан'юнктурай. Беларускага лідэра, мяркуючы па ўсім, не ставяць у вядомасць адносна тых ці іншых планаў у рамках СНД. Якраз таму Лукашэнка напачатку ўзняў пытанне пра неабходнасць перавыбараў старшыні ЕўрАзЭс. На што практычна імгненна негатыўна адрэагаваў расійскі прэзідэнт. У прыватнасці, Пуцін нагадаў, што сама арганізацыя ЕўрАзЭс была створана па ініцыятыве Казахстану. Акрамя таго, падкрэсліў Пуцін, менавіта прэзідэнт Казахстану Нурсултан Назарбаеў «шмат зрабіў» для развіцця гэтай структуры. І паколькі «працэс станаўлення (ЕўрАзЭс) не завершаны, было б правільна» пакінуць пасаду старшыні за Назарбаевым. Само сабою, Лукашэнка адразу пагадзіўся з аргументамі расійскага прэзідэнта. Як той казаў, маўчанне – золата...

Так ці інакш, краіны-ўдзельніцы вырашылі выпрацаваць супольную пазіцыю на перамовах па далучэнні да Сусветнай гандлёвай арганізацыі (СГА), прычым за аснову будзе прынята пазіцыя Масквы. Гэта не датычыць Кыргызстану, які ўжо даўно ўвайшоў у СГА. Дамовіліся пра неўжыванне антыдэмпінгавых і кампенсацыйных захадаў ва ўзаемным гандлі і пра ўзгадненне памежнай палітыкі ў адносінах адзін да аднаго. Паміж першым і другім пратакольнымі мерапрыемствамі прэзідэнты правялі шэраг двухбаковых сустрэч. Асаблівую цікавасць выклікала сустрэча тэт-а-тэт Пуціна і Назарбаева, якія падпісалі дакумент аб размежаванні дна Каспію. Тэма надта актуальная для сусветнай палітыкі.

А вось Лукашэнка не ўпершыню на працягу ўсяго саміту заставаўся ў цені. І тым самым каторы раз было красамоўна даказана, што сёння ў інтэграцыйных ініцыятывах Беларусь далёка не на першых ролях. А асабістыя кантакты з беларускім прэзідэнтам зусім не ўваходзяць у набор прыярытэтаў іншых лідэраў СНД.

На наступны дзень у Аляксандраўскай зале Вялікага крамлёўскага палацу (што, па ідэі, павінна было падкрэсліць значнасць падзеі) адбылося паседжанне юбілейнага, 10-га саміту кіраўнікоў дзяржаваў – удзельніцаў Дамовы аб калектыўнай бяспецы (ДКБ). Нягледзячы на відавочны дэфіцыт часу, пратакольная частка была выкананая цалкам. Так, меркаванае ператварэнне ДКБ у міжнародную рэгіянальную «Арганізацыю дамовы аб калектыўнай бяспецы», безумоўна, адбылося (бо гэта чыстай вады лінгвістыка). Апроч таго, прэзідэнты краінаў, што ўваходзяць у ДКБ, канчаткова адмовіліся ад думкі зрабіць з гэтай арганізацыі нешта накшталт «Варшаўскага блоку». Разам з тым, на думку Пуціна, ва ўмовах імгненнага змянення геапалітычнай абстаноўкі «паўстаюць задачы па далейшым умацаванні дамовы, адаптацыі яе механізму да супрацьдзеяння новым нетрадыцыйным выклікам і пагрозам».

«Усе мы памятаем 11 верасня», – сказаў напрыканцы прэзідэнт Арменіі Роберт Качаран, які да 14 траўня займаў пасаду старшыні ДКБ (цяпер паўнамоцтвы перайшлі да Расіі). Па словах армянскага лідэра, дамова ўяўляецца «перашкодай для міжнароднага тэрарызму». Пасля абмену пастэтычнымі рэфрэнамі прэзідэнты сышліся на думцы, што Калектыўныя сілы хуткага рэагавання (КСХР) не раз выказвалі сваю эфектыўнасць, а таму ў будучыні цалкам мае сэнс на базе КСХР стварыць рэгіянальную групоўку войскаў Цэнтральнаазіяцкага рэгіёну.

Не менш цікавым трэба лічыць рашэнне стварыць міждзяржаўны орган ваеннага кіравання. Свайго роду аналаг саюзнага Генштабу. Па задуме прэзідэнтаў, новая структура будзе складацца з прадстаўнікоў нацыянальных Генштабаў і выконваць каардынуючыя і аператыўныя функцыі.

Самае непрыемнае для беларускага прэзідэнта, вядомага змагара з заходнееўрапейскімі і амерыканскім «рэжымамі», было зафіксавана ў выніковым пратаколе саміту. У прыватнасці, там сказана: «ДКБ будзе супрацоўнічаць з іншымі міжнароднымі арганізацыямі, у тым ліку з *NATO* і Шанхайскай арганізацыяй супрацоўніцтва, і будзе падтрымліваць міжнародную антытэрарыстычную кааліцыю». Як вядома, замежнапалітычныя прыярытэты Лукашэнкі накіраваныя ў супрацьлеглы бок.

Але сапраўды сур'ёзным вынікам юбілейнага «ваеннага» саміту трэба лічыць усё ж такі пагадненне аб ваенна-тэхнічным супрацоўніцтве, паводле якога ўдзельнікі ДКБ будуць купляць і прадаваць зброю па адзінай для ўсіх цане.

**Максім СУХАМЛІНАЎ**

# Суд над вольнаю «Пагоняй»

На 16 траўня ў Гродне быў прызначаны суд над галоўным рэдактарам газеты «Пагоня» М.Маркевічам і журналістам П.Мажэйкам.

Па запрашэнні абвінавачаных на судзе пагадзіліся прысутнічаць прадстаўнікі пасольстваў – Вялікабрытаніі, ЗША, Нямеччыны, Францыі і Польшчы. Уціск дзяржаўнаю уладай журналістаў незалежнага выдання атрымаў шырокі розгалас далёка за межамі Беларусі.

А першы раунд судовага супрацьстаяння павінен быў адбыцца яшчэ 9 красавіка. Аднак калі шматлікія прыхільнікі «Пагоні» і журналісты беларускіх і замежных мас-медыя сабраліся ў судовай залі, ім паведамілі, што працэс пераносіцца, бо суддзя М.Сяргейка захварэў. Пасля шпіталю ён атрымаў службовае падвышэнне ў абласное ўпраўленне юстыцыі і замест яго быў прызначаны новы суддзя – Т.Клімава. Яна і аб'явіла 16 траўня аб пераносе тэрміну суду.

Напярэдадні, дарэчы, на сценах дамоў у Гродне з'явіліся надпісы з заклікам падтрымаць супрацоўнікаў «Пагоні». Графіці бачылі на вуліцах Белуша, Лідскай, Шчорса, Леніна і ў некаторых іншых месцах. Надпіс быў зроблены нават на сцяне Ленінскага раённага суду, дзе адбываецца працэс. Тым самым гарадзенцы выказваюць свой пратэст супраць удушэння вольнага слова «Пагоні» і чутак аб суворым прысудзе. Абодвух журналістаў абвінавачваюць у паклёпе на прэзідэнта. Максімальнае пакаранне за гэта – 5 гадоў зняволення.

**Сяргей МАКСІМОВІЧ**

# Іск сям'і генерала

Сям'я былога міністра ўнутраных справаў Юрыя Захаранкі распачынае грамадзянскі працэс аб прызнанні яго памерлым.

Пра пачатак працэсу паведаміў прэзідэнт арганізацыі «Прававая дапамога насельніцтву» Алег Волчак – юрыдычны прадстаўнік Захаранкаў у Мінску. «Паводле Грамадзянскага кодэксу, калі месцазнаходжанне чалавека цягам трох гадоў не ўстаноўлена, можна падаваць іск аб прызнанні яго памерлым, – кажа Алег Волчак, – патрэба ў такім іску вынікае з цяжкага матэрыяльнага становішча сям'і Захаранкаў». Калі Ю.Захаранку прызнаюць памерлым, сям'я атрымае права распараджацца маёмасцю (у Захаранкаў у Мінску засталася кватэра) і вызначыцца лёс пенсіі былога міністра, выплату якой спынілі пасля яго знікнення.

У Германіі, дзе сям'я з 4 чалавек атрымала прытулак, дапамога часовая і невялікая: каля 220 еўра на чалавека. Пакуль ніхто не працуе, бо трэба добра ведаць нямецкую мову і прайсці як мінімум тры навучальныя курсы. Юля вучыцца ў школе, Алена заканчвае трэція курсы.

Ніякіх новых звестак пра лёс Юрыя Захаранкі не мае і грамадская камісія па расследаванні абставінаў яго знікнення. Версія застаецца ранейшай: «палітычнае выкраданне, да якога маюць дачыненне беларускія спецслужбы».

**Рыгор БУЯН**

НАШЫ ЛІДЭРЫ



Раўненне – на лідэра. Павал Севярынец, лідэр Маладога Фронту, другі злева, і прэс-сакратар МФ Аляксей Шэін, трэці злева, – з сябрамі на паркавай лаўцы. Мінск, 9 траўня 2002 г.

# Карпенкі атрымалі прытулак

Сям'я віцэ-спікера Вярхоўнага Савету 13 склікання Генадзя Карпенкі (жонка Людміла, дзеці Дзмітрый, Таццяна і ўнучка Насця) атрымала палітычны прытулак у Германіі.

Выезд сям'і ў поўным складзе за межы Беларусі 6 студзеня 2002 году быў вымушаны: пасля прэзідэнцкіх выбараў узмацніўся нацiск з боку спецслужбаў, і, як пераканана Людміла Карпенка, пагроза смерці каго-небудзь з родных стала рэальнай.

Сям'я Карпенкаў знаходзіцца цяпер у мястэчку Эфінген, што пад Штутгартам, але Людміла Карпенка не рада вымушанаму ад'езду з Беларусі.

– Я б жыла на сваёй роднай зямлі, сярод сваякоў, але ў Мінску, калі я разам з дзецьмі і з сябрамі Генадзя стварыла Фонд імя Генадзя Карпенкі, пераслед стаў невыносны. Ім недаспадобы, што я выключыла са свайго лексікону слова «зніклыя» – апазіцыйных палітыкаў у Беларусі забіваюць.

***– 17 траўня ў Парыжы на паседжанні Камітэту па юрыдычных пытаннях і правах чалавека адбудуцца слуханні па зніклых, у тым ліку ў Беларусі. На якую падтрымку Вы спадзеяцеся?***

– У Францыі я была ўжо разам з Клімавай, Красоўскай і Вольгай Захаранкай. Цяпер запрасілі толькі двух чалавек, і паедуць Зінаіда Ганчар і маці Дзмітрыя Завадскага. Чакаю я, як і ад папярэдніх паездак у Маскву, Парыж і Вашынгтон, аднаго – каб пачалося незалежнае расследаванне па нашых мужах.

**Рыгор БУЯН**

# Менш пастоў і абмежаванняў

На галоўнай беларускай аўтамагістралі Брэст–Мінск–мяжа Расійскай Федэрацыі (М1/Е30) зменшылася колькасць пастоў ДАІ. У прыватнасці, ля Кобрына, Івацэвічаў, Стоўбцаў. Інжынерное добраўпарадкаванне дарожнага палатна зменіць і абмежаванне хуткасці. У дэпартаменце «Белаўтадар» завяршаецца распрацоўка праекту аб павелічэнні хуткасці. Ад Кобрына да Коласава (пункт спагнання дарожных збораў) і ад 323-га кіламетра да Аршанскага паста пагранічнае абмежаванне хуткасці складзе 120 км/г для легкавых і 100 км/г – для грузавых аўтамабіляў.

Таксама на мінскай кальцавой аўтадарозе зроблены адмысловыя разліткі на самых загружаных участках. У выніку зроблена выснова, што да заканчэння дарожных работ, якія ідуць цяпер, хуткасны рэжым змяняць не варта. Праўда, ужо з лістапада магчыма яго павелічэнне з цяперашніх 90 да 120 кіламетраў у гадзіну, бо параметры кальцавой будуць гэта дазваляць.

**Антон БЕЛЫ**

# Мы ўжо загартаваныя

*Заканчэнне, пачатак на стар.1*

У нас ёсць план падрыхтоўкі да мясцовых выбараў, мы ўжо працуем. Мы ўжо правялі пэўную агітацыйную кампанію па Мінску, па абласных цэнтрах.

Палітыкам з правых партыяў лагічна было б проста дамовіцца. Чаму тут узнікла праблема, я не разумею, і я не магу дапусціць, што з-за незразумелай пазіцыі некалькіх палітычных дзеячаў беларуская дэмакратыя зноў пазбавіцца шансу на поспех, на перамогу.

І таму я мушу звярнуцца наўпрост да чальцоў дэмакратычных партыяў. Калі ласка, паўплывайце на сваё кіраўніцтва. Правядзіце перамовы на рэгіянальным узроўні. Дасягніце паразумення. Нягледзячы на мінулыя крыўды, зараз, здаецца, мы адзіныя ў тым, што ў гэтых выбарах трэба ўдзельнічаць. Давайце дамовімся, скардынуем нашыя намаганні. Давайце падзелім гэтыя акругі, давайце правядзем узгодненую кампанію, не будзем канкураваць па акругах, тады ўсё зробіцца магчымым. Тады будзе шанс.

Першага верасня мы правядзём прэзентацыю сваіх кандыдатаў, якія пачнуць працаваць у акругах. Калі чалавек папрацуе ў акрузе, прыкладзе пэўныя намаганні, затраціць сілы, час, іншыя рэсурсы, ён не згодзіцца потым саступіць гэтую акругу. Зараз трэба падзяліць акругі. Гэта першы крок да кааліцыі, кааліцыі дзеянняў.

***– Вядома, што вашая ініцыятыва не выклікала энтузіязму ў калег па другіх партыях.***

– Я не разумею гэтага. Адзін аргумент, які прагучаў: давайце рыхтавацца да рэферэндума, на якім будуць скасаваныя мясцовыя саветы. Я ўжо казаў, што адно другому не замінае. Падрыхтоўка будзе больш эфектыўная, калі мы нейкую альтэрнатыву створым, давядзём да людзей, што ёсць іншыя партыі, іншая стратэгія развіцця Беларусі, іншыя палітыкі. І другі аргумент – гэта наконт глыбокага расчаравання, калі будзем рыхтавацца да мясцовых выбараў, а яны не адбудуцца. Але іх столькі ўжо было, гэтых расчараванняў. Я думаю, мы ўжо загартаваныя, што да расчараванняў. І акрамя таго, рэальная праца, калі яна добра зроблена, не выклікае нават пры няпоспеху такога расчаравання, якое выклікае кепская праца. Як гэта было падчас прэзідэнцкіх выбараў, калі бойкі, па сутнасці, сапраўднай не адбылося.

**Павел АЛЕКСАНДРОВІЧ**

# Зварот да сяброў дэмакратычных партыяў Рэспублікі Беларусь

**Паважаныя калегі!**

Прэзідэнцкія выбары 2001 году паказалі, што перамога дэмакратыі без няспыннай і напружанай працы з нашым народам, нашымі выбарцамі, без наяўнасці дэмакратычных фракцыяў у парламенце і мясцовых органах прадстаўнічай улады немагчымая. Як і папярэджвала нашая партыя, байкот мясцовых выбараў 1999 году і парламенцкіх выбараў 2000 году сталі найбуйнейшымі палітычнымі памылкамі з боку дэмакратычных партыяў і падарункам для ўлады, якая сумела з яго скарыстаць: стварэнне выбарчых камісіяў усіх узроўняў было аддадзена на водкуп выканкамам. Не ўдалося таксама змяніць драконаўскае выбарчае заканадаўства.

Сёння ніхто з адказных беларускіх палітыкаў дэмакратычнай арыентацыі не гаворыць пра байкот. Гэта дае шанцы разгарнуць актыўную і своечасовую падрыхтоўку да мясцовых выбараў, якія адбудуцца ўзімку 2002–2003 году. Зразумела, што на гэтых выбарах, як ніколі, неабходна адзінства ўсіх дэмакратычных сілаў, за якое заўсёды выступала БСДП (НГ). Аднак, нягледзячы на нашыя неаднаразовыя асабістыя звароты да лідэраў, перадусім, Беларускага Народнага Фронту і Аб'яднанай грамадзянскай партыі, цэнтральныя органы гэтых партыяў дагэтуль не ўзяліся за канкрэтную чарнавую працу. Не пачалося размеркаванне акругаў, што дазволіла б аператыўна ўзгадніць адзіныя кандыдатуры ад дэмакратычных сілаў і забяспечыць тым самым найбольш эфектыўную форму працы з выбарцамі. Наша партыя расцэньвае гэта як сабатаж будучых выбараў, які, у рэшце рэшт, можа прывесці толькі да яшчэ большага ўмацавання пазіцыяў улады.

Беларуская сацыял-дэмакратычная партыя (Народная Грамада) заклікае сяброў дэмакратычных партыяў ініцыяваць разгляд кіраўнічымі органамі партыяў пытання аб стварэнні адзінага блоку і размеркавання акругаў да будучых выбараў. Яшчэ аднаго бессэнсоўнага і нічым не апраўданага байкоту грамадзянская супольнасць Беларусі не зразумее, як не зразумее яго і дэмакратычная грамадскасць Расіі і Еўропы. Зацягваць рашэнне жыццёва важных пытанняў, звязаных з выбарамі, сёння могуць толькі баязліўцы і здраднікі. Партыі ствараюцца для палітычнага жыцця, а не для прыкрыцця бездапаможнасці палітычных імпатэнтаў, якія тужаць па грантах. Заклікаю ўсе партыйныя структуры з цвярозым розумам у абласцях і раёнах, забыўшы пра мінулыя супярэчнасці, пачаць нарэшце супольную працу ў імя вольнай, дэмакратычнай Беларусі.

Жыве Беларусь!

**Мікола Статкевіч,**
**старшыня БСДП (НГ)**
**14.05.2002 г.**

# Маці Юрася Корбана просіць дапамогі



У сераду маці нядаўна зніклага Юрася Корбана і старшыня праваабарончага цэнтру «Вясна» Алесь Бяляцкі склікалі прэс-канферэнцыю, на якой распавялі журналістам пра стан пошуку і папрасілі дапамогі ў ва ўсіх, хто нешта ведае пра зніклага юнака.

Юрась Корбан знік 20 студзеня гэтага году – «выйшаў з адной кватэры, а ў другую не прыйшоў», як кажа яго маці Ніна Мікалаеўна. За час сваёй адсутнасці Юрась двойчы тэлефанаваў дадому – 20 студзеня ён паведаміў родным, што яму прыйшлося з'ехаць, а другі раз праз тры дні папрасіў маці сабраць грошы і прыехаць у Мінск. Але сустрэча не адбылася. «Я звяртаюся па дапамогу і хачу данесці свой боль і абурэнне. Я не магу маўчаць, каб не даць гэтаму паўтарыцца, я прыкладу ўсе сілы дзеля таго, каб усе даведаліся пра знікненне Юрася», – кажа Ніна Корбан.

За апошні час на старонках газет з'яўляліся розныя версіі знікнення, чуткі аб крымінальным следзе ў гэтай справе, уцёках за мяжу і г.д. Маці і сябры схіляюцца да палітычнага матыву знікнення. Юрась Корбан – актыўны ўдзельнік руху БНФ, адзін з заснавальнікаў віцебскага Маладога Фронту, кіраўнік віцебскага цэнтру моладзевых ініцыятываў «Контур», і магчыма, што менавіта актыўная палітычная і грамадская дзейнасць стала прычынай яго знікнення. Удзельнікі прэс-канферэнцыі не выключаюць датычнасці ўладаў да гэтай справы. «Ягонае знікненне распрацавана па разумным сцэнары, на якое здольная толькі вельмі добра арганізаваная структура», – кажа Ніна Корбан. З боку міліцыі не праводзіцца бачных актыўных росшукаў, больш таго, справа аб знікненні, якую вёў Чыгуначны РАУС г. Віцебску, праз два месяцы была спынена з-за «адсутнасці інфармацыі».

Хутчэй за ўсё, з гэтага часу імя Юрася Корбана будзе ўзгадвацца ў жахлівым спісе зніклых беларускіх палітыкаў. Гэтаму спрыяюць час, абставіны знікнення, адсутнасць звестак пра яго лёс, а таксама становішча з правамі чалавека, якое склалася ў нашай краіне.

Алесь Бяляцкі адзначыў, што ў найбліжэйшы час інфармацыя пра гэта будзе перададзена ў міжнародныя праваабарончыя арганізацыі. Такая праца ўжо вядзецца. 10 траўня Аляксандр Лукашэнка атрымаў адкрыты ліст ад Міжнароднай федэрацыі па абароне правоў чалавека, дзе імя Юрася Корбана ўзгадваецца разам з імёнамі Віктара Ганчара, Анатоля Красоўскага і Змітра Завадскага. Таксама гэтая тэма будзе ўзгадана на слуханнях па справах зніклых грамадзян Беларусі на камітэце ПАСЕ ў Парыжы.

Ніна Корбан мае намер падаць скаргу на дзейнасць праваабарончых структураў генеральнаму пракурору рэспублікі.

**Ядвіга МАЦКЕВІЧ**

# «Акно ў Еўропу»

*У гэты панядзелак стала вядома, што Польшча ні ў якім разе не дазволіць Расіі ствараць «транспартны калідор» для сувязі Калінінградскай вобласці з метраполіяй. Польскі прэм'ер заявіў гэта ў адказ на такую прапанову з боку Масквы. Падкрэсліваецца, што вобласць адрэзана ад яе тэрыторыямі дзвюх дзяржаваў – Польшчы і Літвы. Але, не зважаючы на гэта, у наступным годзе для расійскіх грамадзянаў палякі ўвядуць візы. Што Літва, як вядома, зрабіла ўжо даўно.*

У падобных заявах заўжды бянтэжыць тое, што не згадваецца Рэспубліка Беларусь, праз тэрыторыю якой калінінградцы таксама мусяць праехаць, каб трапіць у Расійскую Федэрацыю. Ну, дык жа ж нам увесь час кажуць, што ў нас з рускімі – «адна дзяржава». І што грошы на абсталяванне нашых межаў з Польшчай і Літвой дае Масква, а таму мяжа ў нас – таксама «адзіная». Так што крыўдаваць не выпадае.

Нядаўна еўрарэгіён «Нёман» адзначыў 5-годдзе. Збіралася з гэтай нагоды ў Беластоку польскае, беларускае і літоўскае начальства. У якасці вялікага дасягнення гэтага транспамежнага інстытуту прынялі ў яго Калінінградскую вобласць, дакладней, пяць яе раёнаў. Хаця, дарэчы, пры стварэнні еўрарэгіёну адразу гаварылася, што ў ім будзе ўдзельнічаць і Калінінградчына. Аднак потым у Маскве нейкія дакументы не ўзгаднілі своечасова. А пабачыўшы, што нічога рэальна ў рамках «Нёману» не развіваецца, расіяне ўвогуле перасталі спяшацца.

Ну, але вось ужо пяць гадоў існуе арганізацыя. Міні-юбілей адзначылі заплывам на байдарках па разбуранай – беларускай – частцы славутага Аўгустоўскага каналу. Заплыў адбыўся пару тыдняў таму. Удзельнічалі ў ім 75 чалавек, пераважна палякі. Для іх гэта была водная траса з перашкодамі. Адрэзак у 20 кіламетраў заняў два дні. Урэшце палякі трапілі з каналу ў Нёман.

У падзеі можна адзначыць некалькі момантаў. Аніводная гродзенская турыстычная фірма не зацікавілася акцыяй. Усім добра вядома, што канал занядбаны, шлюзы разбураны. З польскага боку ўсё выдатна, усё дзейнічае. Зона Аўгустоўскага каналу і азёраў – адно з самых папулярных у Польшчы месцаў адпачынку, куды прыязджаюць тысячы турыстаў. Што да гродзенскай публікі, не кажучы ўжо пра турыстычныя фірмы, дык нашая частка каналу – забароненае месца, куды ўезд толькі па пропусках. Вялікую тэрыторыю з савецкіх часоў трымаюць у якасці «памежнай зоны». Так што допуск туды вялікай групы замежнікаў-палякаў стаў не абы-якой падзеяй.

Аднак практычнай карысці ад гэтага мала. З нагоды 5-годдзя ўвосень адбудзецца таксама выстава-кірмаш тавараў бакоў-удзельнікаў. Але кірмашы і раней праводзіліся. Яны ды маніторынг экалагічнага стану ракі Нёман – ці не асноўныя дасягненні гэтага немалога часу існавання еўрарэгіёну. Супрацоўніцтва – рэч добрая ў любой галіне. Але для гэтага не абавязкова ствараць інстытут, галоўная мэта якога зусім іншая: плённае развіццё эканомікі ў памежных раёнах. Гэтак было і з «Нёманам». Канчатковае пагадненне аб яго стварэнні падпісалі ў 1997 годзе, але рэальна супрацоўніцтва ў гэтым рэчышчы пачалося раней.

Ад пачатку 1996 г. пра яго афіцыйна гаварылася вельмі актыўна. Прычым размова тады была больш канкрэтная. Палякі стварылі ў Сувалках арганізацыйнае бюро «Нёману». Сталі планаваць, што там будуць адзіныя спрыяльныя падатковыя, мытныя і цэнавыя ўмовы, а таксама бязвізавы або спрошчаны пераезд мяжы; што будуць створаны сумесныя прадпрыемствы з правам замацавання за імі зямлі. У Сувалках для гэтага адразу адвялі 2 000 гектараў. Мэтай стварэння еўрарэгіёну абвясцілі выраўноўванне эканамічнага стану ўсіх рэгіёнаў-удзельнікаў. Ужо тады было ясна, аднак, што беларускія ўлады ніякіх падатковых ды іншых палёгкаў не дапусцяць. Хаця мясцовыя – абласныя – тады жадалі рэальнага развіцця транспамежнага супрацоўніцтва менавіта эканамічнага. Але дагэтуль нічога рэальна зроблена так і не было. Замест эканомікі – байдарачны заплыў.

Трэба сказаць, што адначасова з распрацоўкай канцэпцыі еўрарэгіёну абласныя ўлады думалі аб стварэнні свабоднай эканамічнай зоны. А раптам хоць штосьці атрымаецца? З «Нёманам» пытанне вырашылася значна раней, хоць эканамічных вынікаў ніякіх няма дагэтуль. А наконт СЭЗ усё залежала ад аднаго чалавека – ад Аляксандра Рыгоравіча. І справа зацягнулася на гады. Нарэшце нядаўна ён падпісаў указ аб стварэнні Свабоднай эканамічнай зоны «Гроднаінвест». Тэрмінам на 30 гадоў. Да сярэдзіны чэрвеня ўрад абавязаны прыняць рашэнне пра адміністрацыю СЭЗ.

Аднак час страчаны. У краіне – эканамічны спад. Так што наўрад ці наіўныя замежнікі кінуцца на скрут галавы рызыкаваць сваімі капіталамі ў «Гроднаінвесце». Нават старшыня Гродзенскага гарвыканкаму А.Антоненка на прэс-канферэнцыі вельмі стрымана выказаўся наконт перспектываў развіцця СЭЗ. Чыноўнікі – рэалісты, яны выдатна ведаюць, дзе і ў якіх умовах мы жывём. Так што пакуль большасць ставіцца да «Гроднаінвеста» амаль як да мыльнай бурбалкі. Паколькі планы, выкладзеныя ў адпаведным указе, даволі напалеонаўскія.

Канечне, адно апраўданне для празмернага маруджання з указам усё ж ёсць. Трэба было сем разоў адмераць, перш чым адрэзаць. Бо з «Нёманам» Аляксандр Рыгоравіч, можна сказаць, апёкся на малацэ. Нагадаю: на пачатку 1996 г. дайшло да міжнароднага скандалу. Перад рэпарцёрскімі тэлекамерамі беларускі і расійскі лідэры правялі на мапе па тэрыторыі Польшчы «транспартны калідор» паміж Гродна і Калінінградам. Польская прэса – ад «жоўтай» да сур'ёзнай – узняла шум. Скандал быў выкарыстаны для нападак на некаторых палітыкаў. Маўляў, яны патаемна згаварыліся з Масквой наконт пабудовы экстэрытарыяльнага «транспартнага калідору». Вельмі папулярны і тыражны варшаўскі тыднёвік «Не» нават распавёў падрабязнасці сакрэтнага пагаднення. Быццам бы замест паса польскай тэрыторыі Польшчы прапанавалі землі ў Калінінградскай вобласці, а таксама дадатковую частку Белавежскай пушчы. Але самае галоўнае – горад Гродна з прылеглымі тэрыторыямі і са статусам «цалкам польскага горада». Паколькі «Не» – выданне бруковае, адрозніць праўду ад містыфікацыі чытачам было няпроста. Аднак скандал вакол «калідору» разгарэўся як мае быць.

Але вернемся да свабоднай эканамічнай зоны. На льготы ў ёй могуць разлічваць вытворцы прадукцыі экспартнай і той, якая замяняе імпартаваную сёння ў Беларусь. Айцы гораду, аднак, настроены скептычна: каб для прадпрыемстваў, якія ёсць у Гродне, былі створаны нармальныя падатковыя, увогуле эканамічныя ўмовы, яны здолелі б вырабляць экспартную і імпартазамяшчальную прадукцыю без ніякай СЭЗ.

Ну, але ж гэтак хочацца часам паверыць у прыгожы міраж! Тым больш калі падпісаны адпаведны ўказ.

**Сяргей МАКСІМОВІЧ**

# Парушэнні закону не маюць тэрміну даўнасці

Грамадзянская ініцыятыва «Незалежнае назіранне», якая на мінулых прэзідэнцкіх выбарах аб'яднала больш за 200 недзяржаўных арганізацый, днямі выдала «Маніторынг парушэнняў заканадаўства падчас выбараў Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь у 2001 годзе».

Звод складзены на падставе актаў і заяваў назіральнікаў на выбарчых участках. Акрамя таго, кожны выпадак парушэння Закону ўтрымлівае дакладныя звесткі: імёны парушальнікаў, месца падзеі і нумар выбарчай камісіі.

«Гэтая інфармацыя не падуладная тэрміну даўнасці. Зараз такі звод дае нам магчымасць напоўніцу зразумець маштабы парушэнняў і фальсіфікацыяў на мінулых прэзідэнцкіх выбарах. Памер кнігі – больш за 250 старонак – сведчыць пра тое, што гэта былі не адзінкавыя выпадкі: фальсіфікацыі мелі масавы характар», – кажа каардынатар «Незалежнага назірання», старшыня праваабарончага цэнтру «Вясна» Алесь Бяляцкі.

Дакументы, паводле якіх складзены маніторынг, надзейна перахоўваюцца, і назіральнікі, якія прысутнічалі на выбарчых участках пры галасаванні і падліку галасоў, спадзяюцца: прыйдзе час, калі рука правасуддзя дастане тых, хто скрыў праўду пра тое, што адбылося.

**Ядвіга МАЦКЕВІЧ**



# Доўга святкавалі, шмат пілі і нямала гаравалі

## *Беларусь у здарэннях: «чырвоныя» дні календара і паміж імі*

### Беларусы гінуць у Расіі

Праз некалькі дзён, як у далёкім ад Беларусі Дагестане адбыліся жалобы па ахвярах тэракту, не меншы смутак ахапіў райцэнтр Вілейку. 13 траўня тут хавалі 32-гадовага Сяргея Бохана. Мічман Каспійскай флатыліі загінуў у час праходжання святочнай дэманстрацыі 9 траўня ў Каспійску, калі выбух бомбы забіў 39 чалавек. Сіратою застаўся яго 8-гадовы сын, удавою – маладая жонка і без мужчынскай дапамогі – маці-пенсіянерка.

Сяргей Бохан атрымаў чужое грамадзянства пасля найму на кантрактную службу на расійскі флот. У Вілейцы і за раз дыслакуецца падраздзяленне марской пяхоты Расіі. Заробкі тут вышэйшыя, чым можна атрымаць у Беларусі, і таму шмат хто з мясцовых юнакоў рызыкуе шукаць сабе шчасця ва ўзброеных шыхтах чужой арміі. І Сяргей Бохан апынуўся далёка ад бацькоўскага дома, бо скончыў школу мічманаў у Мурманску і быў накіраваны ў Каспійск. У апошні шлях яго праводзілі родныя, землякі, ганаровая варта 72-й брыгады марской пяхоты ВМФ Расіі.

Яшчэ адно надзвычайнае здарэнне адбылося 12 траўня на касмадроме Байканур. Тут абрынуўся дах мантажна-выпрабавальнага корпусу. Пад заваламі апынуліся 8 рабочых, якія праводзілі рамонтныя работы на даху. Людзі ўпалі з вышыні 80 метраў. Як паведаміў у адмысловай заяве прэс-сакратар беларускага знешнепалітычнага ведамства Павел Латушка, у консульскім упраўленні МЗС і пасольстве Беларусі ў Казахстане ўдалося высветліць асобу адной з ахвяраў – грамадзяніна Беларусі, ураджэнца Гомельскай вобласці Аляксандра Новікава. Пасольства і МЗС Беларусі дапамогуць даставіць цела нябожчыка на радзіму і падтрымаюць яго сваякоў і блізкіх. Аднак у МЗС Беларусі ўдакладнілі, што яшчэ 16 траўня цела беларуса на месцы аварыі не адшукана.

**Вячаслаў КУЛІКОЎСКІ**



Да сённяшняга дня ў шматкватэрным гмаху на вуліцы Маскоўскай у Мінску зеўрае вокнамі пустая кватэра. Гэты пажар спрычыніў вялікую паніку ў ажыўленым цэнтры беларускай сталіцы.

### Расіянін змагаецца за Беларусь

Вечарам 13 траўня са спецпрыёмніка-размеркавальніка ГУУС Мінгарвыканкаму пасля 28 сутак затрымання выпушчаны адзін з удзельнікаў вахты ў Курапатах – 24-гадовы грамадзянін Расіі Антон Шкурынскі.

Антон Шкурынскі быў затрыманы 16 красавіка. Паколькі ў яго не было на руках пашпарту, расіяніна змясцілі ў спецпрыёмнік-размеркавальнік на тэрмін да 30 сутак да высвятлення асобы. Аднак, як распавёў ён журналістам, вышаўшы з гэтай установы, яго асоба была высветлена вельмі хутка. Ён даў усе свае каардынаты. Таксама высветлілася, што пашпарт знаходзіцца ва ўпраўленні унутраных справаў Кастрычніцкага раёну Мінску. Дакумент быў канфіскаваны ў яго ў якасці «закладу» да выплаты ім штрафу.

Ён расказаў журналістам пра ўмовы ўтрымання ў спецпрыёмніку-размеркавальніку. За ўсе 28 дзён яму ні разу не далі пагуляць на свежым паветры, хоць малады чалавек пакутуе на хранічны бранхіт. Прычым камеры, разлічаныя на 8 чалавек, заўсёды былі перапоўнены. У іх знаходзіліся ад 9 да 15 чалавек.

Як распавёў А.Шкурынскі, пасольства Расіі нічога не зрабіла, каб дапамагчы яму. Як толькі ўзніклі «пашпартныя» праблемы з беларускімі ўладамі, ён прыйшоў ва ўпраўленне па справах грамадзян пры расійскім консульстве. «Мне сказалі – гэта вашыя цяжкасці. Мы можам вам даць даведку. Вы вернецеся ў свой горад (Мурам, Уладзімірская вобласць). Або дамаўляйцеся з Кастрычніцкім РУУС самі», – расказаў Шкурынскі.

Свой удзел у вахце ў Курапатах, дзе ён знаходзіцца са студзеня 2002 году, Шкурынскі растлумачыў тым, што ў ягонай сям'і, якая паходзіць з Заходняй Украіны, у саракавыя гады было шмат рэпрэсаваных. «Курапаты – гэта квінтэсенцыя барацьбы беларусаў за незалежнасць. У гэтым месцы людзі становяцца патрыётамі», – сказаў Антон Шкурынскі.

**Генадзь БАРБАРЫЧ**

### Пажары забралі маёмасць і жыцці

Ужо ў першую ноч траўня пажар забраў сваю першую ахвяру. У вёсцы Дрэтунь Полацкага раёну загарэўся драўляны жылы дом. Паводле інфармацыі прэс-службы МНС, прычынай здарэння стала кароткае замыканне электраправодкі. Дом згарэў; у ім загінула 31-гадовая гаспадыня. У тую ж ноч адбыўся пажар у гарадскім пасёлку Фаніпаль Дзяржынскага раёну. З-за ўласнай неасцярожнасці пры курэнні загінуў 56-гадовы гаспадар жылога дома па вуліцы Калініна.

Наступныя чатыры выходныя дні абярнуліся амаль дзвюма сотнямі пажараў, у якіх загінулі 9 чалавек. У сямі выпадках прычынай гібелі стала неасцярожнасць пры курэнні, яшчэ двойчы пажары з гібеллю людзей узніклі з-за парушэнняў правілаў пажарнай бяспекі пры эксплуатацыі пячнога абсталявання.

Найбольш сур'ёзны пажар здарыўся раніцай 9 траўня ў Мінску па вуліцы Магілёўскай. У будынку вытворчага корпусу адкрытага акцыянернага таварыства «Модум – наша касметыка», які знаходзіцца на рэканструкцыі, загарэліся адкладанні лаку на плошчы 120 квадратных метраў. Прычынай пажару стала загаранне адкладанняў нітралаку пры кантакце з перагрэтым наканечнікам адбойнага малатка.

За выходныя з пікнікамі на прыродзе адбыўся 41 пажар на тарфяніках, 48 лясных пажараў, 25 узгаранняў сухой травы і хмызняку. У падраздзяленнях МНС б'юць трывогу, што з пачатку гэтага году ў рэспубліцы зарэгістравана 1 665 загаранняў сухой травы агульнай плошчай больш чым 3 000 гектараў, 389 лясных пажараў на плошчы 411 гектараў, 539 пажараў на тарфяніках. Для ліквідацыі наступстваў загарання было прыцягнута 2 904 адзінкі тэхнікі і 8 727 супрацоўнікаў МНС, 1 245 адзінак тэхнікі і 6 415 работнікаў іншых міністэрстваў і ведамстваў.

**Дзмітрый БЕЛЬСКІ**

### У спёку – успышка самагубстваў

Спякотныя дні на Брэстчыне з 8 па 12 траўня адзначыліся надзвычай вялікай колькасцю выпадкаў наўмыснага развітання людзей з жыццём. Пятлю на ўласнай шыі зацягнуў 42-гадовы жыхар рабочага пасёлка Мікашэвічы ў Лунінецкім раёне. Такі ж метад суіцыду выбралі для сябе 44-гадовы калгаснік з вёскі Радастава Драгічынскага раёну і двое гарадскіх пенсіянераў у Баранавічах.

Пасля сваркі са сваім мужам шукала смерці 37-гадовая пінчанка. Яна выкінулася з акна кватэры на трэцім паверсе. Скокам з вышыні таксама спрабавала пазбавіцца ад зямных праблемаў 17-гадовая жыхарка Брэсту. Самаахвярніц, аднак, выратаваў лёс – абедзве са шматлікімі пераломамі шпіталізаваныя і, як той казаў, атрымалі ад дактароў шанец пазмагацца за лепшае ў сваім жыцці.

Успышка самагубстваў захліснула і Магілёўскую вобласць. У траўні ўжо 8 чалавек пайшлі з жыцця праз павешанне.

Калі ўлічыць, што ў дзень Святога Вялікадня на Беларусі адбылося больш як паўтара дзесятка выпадкаў суіцыду, то з травеньскім дадаткам гэтая трагічная статыстыка перавышае сярэднія паказчыкі іншых месяцаў у два-тры разы.

**Галіна БАРАВАЯ**




Фота IREX/ProMedia

9 траўня, Мінск, парк імя Горкага: пільныя міліцыянты робяць зачыстку сярод шумлівай моладзі.

ТЭНДЭНЦЫІ

### Страшныя знаходкі вясны

Не было яшчэ ў Беларусі ніводнай пасляваеннай вясны, каб трагічнае мінулае не нагадала пра сябе страшнымі знаходкамі. На сваім прысядзібным участку жыхарка гораду Беразіно знайшла міну 45-га калібру перыяду Вялікай Айчыннай вайны. У Жодзіне працаўнікі жыллёва-камунальнай гаспадаркі наткнуліся на 122-мм артылерыйскі снарад. Небяспечны трафей абяззброіла група размініравання. На полі калгасу «Маяк» блізу вёскі Дзямідаўка Барысаўскага раёну пры сяўбе калгаснікі адкапалі авіябомбу. У той жа дзень у міліцыю звярнуўся барысаўчанін. Яго знаходкай на полі ля вёскі Брылі стала міна. У вёсцы Семкаве Мінскага раёну мясцовы жыхар адкапаў супрацьтанкавую міну. Буйная знаходка зафіксавана ў вёсцы Малыя Дзіковічы Пінскага раёну, дзе на сваім прысядзібным участку мясцовы жыхар знайшоў 3 супрацьпяхотныя міны. З 8 траўня і на працягу чатырох дзён у Беларусі было знойдзена больш за 10 снарадаў часоў Вялікай Айчыннай вайны. Прычым у трох месцах – у вёсках Дзяніскавічы Ганцавіцкага раёну і Забрэжжа Валожынскага раёну, а таксама ў Бабруйску – боепрыпасы 40-х гадоў знайшлі ў Дзень Перамогі. У апошнім выпадку 5 артылерыйскіх снарадаў былі знойдзены каля тралейбуснага прыпынку.

**Андрэй БЛІНОЎ**

### Трагедыя на пераездзе

Адзін чалавек загінуў, яшчэ адзін у цяжкім стане дастаўлены ў бальніцу ў выніку сутыкнення легкавога аўтамабіля і лакаматыва, якое адбылося 8 траўня на чыгуначным пераездзе ля вёскі Мядзведкава Віцебскага раёну.

У выніку аварыі 43-гадовы кіроўца легкавіка памёр на месцы здарэння, а 32-гадовы пасажыр, які знаходзіўся ў салоне, у вельмі цяжкім стане дастаўлены ў абласную бальніцу Віцебску.

Мяркуецца, што прычынай аварыі стала парушэнне кіроўцам аўтамабіля правілаў перасячэння чыгуначнага пераезду.

**Віктар КОЎШ**

### «Алмаз» канфіскаваў ізумруд

У Мінску пры спробе збыту ізумруду вагой больш чым 200 каратаў затрыманы двое жыхароў Чачні і двое грамадзян Беларусі. У аперацыі ўдзельнічалі супрацоўнікі ўпраўлення па барацьбе з эканамічнымі злачынствамі МУС, АБЭЗ Маскоўскага РУУС гораду Мінску і байцы спецпадраздзялення «Алмаз».

Прадмет здзелкі канфіскаваны і накіраваны на экспертызу ў Дзяржаўную інспекцыю прабірнагляду Міністэрства фінансаў. У пакупніка – работніка аднаго са сталічных банкаў – канфіскавана 500 тысяч даляраў ЗША, прызначаных для разліку за тавар.

Па гэтым факце ўзбуджана крымінальная справа па артыкуле 223 Крымінальнага кодэксу Рэспублікі Беларусь «Парушэнне правілаў аб здзелках з каштоўнымі металамі і камянямі».

13 траўня затрыманым прад'яўлена абвінавачанне. Яны арыштаваны і змешчаны ў следчы ізалятар.

**Вячаслаў БУДКЕВІЧ**

### У траўні – на нары

На пачатку траўня арыштаваны экс-прэзідэнт канцэрну «Белхарчпрам» Віктар Казека. У прэс-службе пракуратуры Беларусі паведамілі, што справа заведзена па ч.3 арт.124 Крымінальнага кодэксу РБ (злоўжыванне ўладаю альбо службовым становішчам).

В.Казека, які раней займаў пасаду намесніка старшыні Мінскага аблвыканкаму, абвінавачваецца ў пасобніцтве незаконнай здзелцы паміж рэспубліканскім унітарным прадпрыемствам «Мінск-Крышталь» і камерцыйнай фірмай па перапрацоўцы канчатковага спірту. Гэтая акалічнасць крымінальнага характару выкрытая пры расследаванні пракуратурай рэспублікі крымінальнай справы па факце атрымання буйнога грашовага хабару у дачыненні да сына В.Казекі – Андрэя Казекі. На пачатку 2002 году ён узначальваў аддзел збыту РУП «Мінск-Крышталь».

**Надзея СВЯТЛІЧНАЯ**

# Нашбанк пакутуе па самагубстве

### Кароткая гісторыя ўзнікнення

Паводле «чырвоных» міфаў, імперскі банк у Расіі бальшавікі захапілі разам з мастамі, тэлеграфам і Часовым урадам. Але з навуковых крыніцаў вядома, што дзейнасць адзінага эмісійнага і цэнтральнага крэдытнага, разліковага і касавага цэнтру без усялякіх зьмяненняў працягвалася яшчэ два месяцы пасля пралетарскай рэвалюцыі. 25 кастрычніка 1917 году рабочыя атрымалі зарплату, і гэта выратавала ўладу Саветаў ад гібелі.

Потым верныя леніну сталі смела карыстацца адабраным у царскіх сатрапаў інструментам. Доўгія практыкі давялі майстэрства рэвалюцыйнай мэтазгоднасці да вышыняў, на каторых нармальнаму чалавеку робіцца кепска. А выхаванцы партыі, каб не мучыцца, увялі два пастулаты:

дзяржавай могуць кіраваць усе, каму ахвота (а пра нейкі банк няма чаго і казаць);

асноўная дзейнасць начальства завецца «ўсебаковая падтрымка» (банк, зразумела, падтрымлівае грашыма).

Таму, калі ўсе нас кінулі ў СССР і мы яго перайменавалі ў РБ, існіна пралетарская метады выкарыстання Нацыянальнага банку захаваліся толькі тут.

### Адметныя рысы

1. Скора 130 гадкоў, як ментальна чуждыя элементы заснавалі Мінскі камерцыйны банк. Але не так даўно беларуская савецкія банкіры святкавалі нейкае васьмідзесяцігоддзе.

2. Самы незалежны ў СССР. Не залежыць ад кучы прафесіяналаў з Ураду, ці яшчэ большай кучы аматараў са Сходу, а залежыць ад аднаго Непрастога чалавека.

3. Працуе лепш за калгас, бо покуль эканоміка спаўзала ў рынкавы сацыялізм, узмацніўся і зрабіў рамонт.

4. Вядзе селекцыю камерцыйных банкаў. Ужо засталася палавіна банкаў, з каторых 7 не ўплываюць на агульную статыстыку. За ўстойлівасць шасці астатніх адказвае галава дзяржавы ўсім сваім словам.

5. Пакутуе на прыроджаную манію самагубства. Зараз хоча знікнуць шляхам уваходу ў «сістэму цэнтральных банкаў дзвюх краінаў з МВР у якасці органу кіравання».

6. Захапляецца эмісійным фінансаваннем бягучых касавых разрываў і дэфіцыту дзяржаўнага бюджэту.

7. Настальгуе па вёсцы. Сам спансуе АПК і другіх прымушае.

8. Рэгулярна абнаўляе мадэлі грашовых адзінак. Прайдзісветы, каторыя падрабляюць купюры, у роспачы з'ехалі ад нас у шэнгенскую зону.

### Добрыя намеры

Відавочна, што старшыня не можа адказваць за стратэгію свайго аб'екту, будзь то банк, калгас, камітэт дзяржбяспекі альбо спажыўсаюз. Стратэг у нас адзін. Ён вельмі добры і хоча ўсім дапамагчы, «падтрымаць». Асабліва шкада старэнькіх калгаснікаў і іхных дзетак, каторыя працуюць сілавікамі і вертыкальшчыкамі. Трэба даць ім грошай, колькі ім трэба.

### Рашучыя дзеянні

Гэта зараз лёгка зрабіць. А яшчэ восем гадоў таму замест золата, каштоўных камянёў і незлічоных валютных рахункаў была толькі мышыная скура. Тую скуру злупілі з мышкі, каторая павесілася ад голаду, пра што народу было адмыслова паведамлене.

Трэба было выпраўляць становішча. Параіцца не было з кім. Усё давялося рабіць самому. Што старшыні мяняліся, дык той бяды. У іх такая работа, што сем гадоў з канфіскацыяй можна на любой планёрцы закацiць. Сітуацыя была несспрыяльная, як надвацць банкам, эканоміка вырасла на інфляцыі, калгаснікі адвыклі ад зарплаты, валютныя рэзервы сталі вялікія-вялікія, золата – поўныя сусекі, усе надзейныя хлопцы атрымалі мерседэсы, паўсталі лядовыя палацы і пытанні прыватызацыі нафтавага комплексу. А шчасця няма!

Простыя людзі незадаволеныя. Ад мовы адмовіліся, ад сцяга адмовіліся, ад герба адмовіліся, з Расеяй дамовіліся, а каўбаса ўсё роўна даражэе, бо дрэнна працуюць калгасы. Напавялічваюць колькасць гатоўкі ў абароце. Спробы рэгулявання грашовай масы можа заўважыць хіба што пільны назіральнік, накшталт вашага карэспандэнта, а таму, хто заняты сур'ёзнымі рэчамі, гэтага не ўбачыць.

Цікава затое зірнуць, якім чынам тэмп павелічэння наяўных грошай адбіваецца на дынаміцы легальнага сектару валютнага рынку, звесткі пра каторы ёсць у агульнадаступнай статыстыцы. Не трэба быць вытанчаным аналіты-




вор'е ў калгасе. Даводзілася манеўраваць і змагацца са шкоднікамі.

Толькі пачалі даваць народу грашовую масу, каб крыху падкарміць, ажно жулікі пачалі мяняць яе на даляры і псаваць нам курс. За першыя чатыры гады давялося ў 26 разоў курс зменшыць і трох старшыняў памяняць. А яшчэ, покуль адцерлі ад валюты жулікаў ды паставілі сваіх хлопцаў, і не кажыце. Таргэкспы розныя з фондамі, левае збожжа, правы спірт, золата на Белазы... Ледзьве вычухаліся да 1999 году.

Дык добра, каб тыя клятыя спекулянты толькі далярамі гандлявалі. Захоча простая якая жанчына купіць дзеткам малачка ці кавалачак мяска. Прыцягнецца ў краму, а там адна інфляцыя. Сталі рэгуляваць цэны. Банк рэгулюе, Міністэрства эканомікі рэгулюе, Мінфін рэгулюе, адміністрацыя і прафсаюзная арганізацыя рэгулююць... няма парадку, покуль сам не возьмешся. Грамадзяне сталі пісаць пісьмы, што няма дзе жыць і працаваць. Прыйшлося падтрымаць грашыма дзеткак вертыкальшчыкаў і ўнукаў калгаснікаў, а таксама міліцыю, імпарцёраў, экспарцёраў, спартсменаў, вучоных, патрыятычную саюзную моладзь, а галоўнае – будаўніцтва, матор германскай пасляваеннай эканомікі.

Так усё хораша рабіў наш банк, што апазіцыянеры пачалі лаяцца на крэдытную эмісію. Сталі змагацца з той эмісіяй і душыць камерцыйныя банкі, каб яны не мучылі калгасы, а давалі ім грошы, што болей, то лепей.

Нарэшце, перамаглі. Апошні старшыня навучыўся кіраваць Рада бяспекі не ведае, чаму. Пара ўсіх разганяць.

### Causa finalis

Сённяшні старшыня нашага банку вельмі кемлівы і сэрцам аграрый, а толку? Тэхнічныя сродкі аграсектару зношаныя на тры чвэрці, суадносіны абаротных і асноўных фондаў скараціліся да 1/7 пры нарматыве 5/7, нармальных занятых засталося 7 ад рэальнай патрэбы, якасць глебы пагаршаецца ў палове раёнаў.

Субсідыі сельскай гаспадарцы перасягнулі мяжу ў 100 даляраў на жывога беларуса. Сёлета ўжо далі пад пасеў 13,5 млрд. руб. крэдытаў. А рэцыпіентам у той сявеньцы, з якой яны жабраваць ходзяць, усё пуста. Так што да 1 чэрвеня дадуць ім банкі яшчэ 56,5 млрд. руб., нікуды не дзенуцца.

### Папярэднія вынікі і перспектыва

Банк нашае непераможнае нацыі працуе, падмацаваны гарантыяй нацыянальнага лідэра. Установа пільна сочыць, каб грошай усім хапала, а як не хапае, то выпускае новыя. Таму даводзіцца трымаць высокі тэмп.

Удзячнае насельніцтва па сваёй беднасці і наўпэўненасці ў будучыні замест таго, каб купляць мерседэсы, будаваць сабе палацы і адпачываць на шыкоўных курортах, цягне свае рублі ў абменнікі і да розных прайдзісветаў. Наш банк, каб ўратаваць рубель, ад катарага так уцякае наўдзячнае насельніцтва, стварае валютныя рэзервы і... выпускае яшчэ болей танных рублёў. Летнія выплаты да адпачынку, заробкі сезоннікаў традыцыйна кам, каб заўважыць поўную асінхроннасць, то бок люстэркавае несупадзенне ў тэмпах прыросту наяўных грошай у абарачэнні і на валютных рахунках грамадзянаў у камерцыйных банках Беларусі.

У лютым найбольшы тэмп прыросту назапашвання валюты, а ў жніўні – найменшы. Бо тое, што не паспелі прапіць з 25.12 па 14.01, няма куды дзець, а ў жніўні альбо адпачынак, альбо пасля адпачынку грошай няма, дый дзіцё ў школку выправіць зараз дорага.

А дорага, таму што інфляцыя, цэны растуць. Гэта ўсе ведаюць. Дарэчы, народ наш не абдурыш, і ягоны калектыўны розум працуе не горай за аналітыкаў пана Грынспэна з Федэральнага рэзерву ЗША. Дынаміка інфляцыі з невялікім спазненнем адбіваецца на дынаміцы ўкладаў.

Інфляцыя ў нас не проста ёсць. Яна самая вялікая ў былым СССР. Высокая, як тэмпы прамысловага росту. Моцная, як слаўныя структуры. Вялікая, як любоў да інтэграцыі. Унікальная, як знешняя і ўнутраная палітыка. Навязлівая, як прамова. Нязменная, як калгас.

Таму што народу і ягоным калгасам аддаецца ўсё, і ягонае і чужое, праўда, толькі ў выглядзе незлічоных крэдытных і наяўных беларускіх рублёў. Гэта і ёсць наша «грашова-крэдытная палітыка», каторую самы вялікі апты міст-манетарыст у лічаных месяцы з малой інфляцыяй назваў найнячай як вельмі мяккай і праінфляцыйнай.

А чаму яна такая? Што і пытацца, панове, зразумела, ад беднасці.

**Юзік ЛАБЭЦКІ**

**ЭКСПРЭС**

# Эканамічныя нататкі

### Праца на склад

За першы квартал 2002 году рэшткі гатовай прадукцыі на складах беларускіх прамысловых прадпрыемстваў павялічыліся з 750 млрд. руб. да 1 трлн. 48 млрд. руб.

Паводле звестак Мінфіну, у бюджэт краіны за разглежданы перыяд паступіла 1 трлн. 584 млрд. руб. прыбыткаў. З іх на долю падаткаў на дабаўленую вартасць, на прыбытак, акцызаў і падаходнага падатку прыпадала 53,9% (больш за чвэртку сродкаў – падатак на дабаўленую вартасць). За той жа перыяд запазычанасць па плацяжах у бюджэт павялічылася на 47,3% і склала 197,7 млрд. руб.

Міністэрства статыстыкі паведамляе, што аб'ём інвестыцый у асноўны капітал і будаўніцтва за першы квартал павялічыўся на 7% (у параўнанні з аналагічным перыядам мінулага году) і склаў 624,7 млрд. руб. Доля дзяржаўных сродкаў у агульным аб'ёме інвестыцый складае зараз каля 59,5%.

### «Газпрам» не давярае Беларусі

Ужо ў гэтым месяцы пастаўкі расійскага газу ў Беларусь могуць скараціцца на 25–30%. Па словах міністра энергетыкі Уладзіміра Сямашкі, папярэджанне ад ААА «Газпрам» атрымаў прэм'ер краіны Генадзь Навіцкі. У дакуменце адзначаецца, што рэспубліка разлічылася толькі за 64% пастаўленага за апошні час газу і такім чынам выклікала сур'ёзны недавер з боку «Газпраму». Агульная ж запазычанасць Беларусі за расійскі газ складае зараз 336 млн. даляраў.

### За арэнду – новыя падаткі

Рашэннем Мінскага савету дэпутатаў усталяваны новыя фіксаваныя сумы падаходнага падатку з прыбыткаў, што атрымліваюць фізічныя асобы ад здачы ў арэнду жылых і нежылых памяшканняў фізічным асобам. Сума падатку ад здачы аднаго пакою ў жылым памяшканні цяпер складае 12 базавых велічынь (базавая велічыня адпавядае 17000 рублёў) штогод, нежылых – ад 1,2 да 6 базавых велічынь за 1 кв.м. плошчы. Фіксаваныя сумы падаходнага падатку зьмяншаюцца на 50%, калі ўладальнік сам жыве ў гэтым жылым памяшканні.

### Казахстан



Байканур. Мантажна-выпрабавальны корпус касмадрому. Абломкі даху пахавалі пад сабою «Буран» і восем рабочых

### Арабы байкатуюць амерыканскае

У арабскіх краінах шырыцца стыхійны байкот амерыканскіх тавараў і паслуг. Да гэтай кампаніі далучаюцца недзяржаўныя арганізацыі, якія заклікаюць насельніцтва не купляць амерыканскага і тым самым зменшыць удзел ЗША ў фінансавай падтрымцы Ізраілю (на гэтыя мэты ЗША выдзяляе каля 3 млрд. даляраў штогод). У Іарданіі і ААЭ створаны грамадскія камітэты па байкоце. Зараз мала таго, што амерыканская прадукцыя стала менш купляцца, дык самі ўладальнікі крамаў здымаюць такі тавар з паліц, замяняючы яго на еўрапейскі. Чуюцца таксама заклікі не скарыстоўваць у разліках амерыканскі даляр. Арабы ацэньваюць спад выкарыстання ўсяго амерыканскага ў 20%, а ў сферы харчавання – да 60%.

### 365 млн. даляраў за камп'ютэр

Наймацнейшы суперкамп'ютэр, здольны выконваць 5 трлн. аперацый у секунду, уведзены нядаўна ў эксплуатацыю ў Японіі. Ён канструяваўся 5 гадоў і каштаваў амаль 365 млн. даляраў. Ультрахуткасная машына завецца «Зямны сімулятар» і прызначана для мадэлявання глабальных кліматычных зменаў на планеце. Камп'ютэр складаецца з 5,12 тыс. працэсараў, якія займаюць плошчу 50 на 65 м, і размешчаны ў Інстытуце Зямлі ў Йокагаме. Стваральнікі гэтага цуда сцвярджаюць, што пікавая моц «сімулятара» можа дасягнуць 40 трлн. аперацый у секунду. Сінтэзуючы гіганцкія аб'ёмы інфармацыі з розных аб'ектаў назірання, машына будзе дапамагаць прадказваць землятрусы, вывяржэнні вулканаў, наступствы розных экалагічных катастроф і інш.

### Афганістану пагражае голад

Сусветная харчовая праграма ААН папярэджвае пра магчымасць узнікнення голаду ў Афганістане і патрабуе ад міжнароднай супольнасці спецыяльнай падтрымкі насельніцтва гэтай краіны на суму не менш як 28 млн. даляраў. Па звестках экспертаў ААН, амаль 9 млн. афганцаў (40% насельніцтва) галадаюць і залежаць ад гуманітарнай дапамогі. Без дадатковых фінансавых сродкаў ужо ў чэрвені можа спыніцца выдзяленне гуманітарных харчовых грузаў афганцам, якія праз трохгадовую засуху былі вымушаны пакідаць родныя мясціны і тысячамі гінулі ад голаду.

### Пад пытаннем дэвальвацыя даляра

Прадстаўнікі Нацыянальнай асацыяцыі вытворцаў ЗША абвінавачваюць Міністэрства фінансаў краіны ў праводзенні неэфектыўнай палітыкі ў адносінах да амерыканскіх экспарцёраў. Такім чынам прэзідэнт гэтай арганізацыі Джэры Ясіноўскі спрабуе праз губернатараў і заканадаўцаў націснуць на адміністрацыю Буша, каб змяніць фінансавую палітыку кабінету, скіраваную на падтрыманне завышанага курсу даляра. Гэткі курс стварае неспрыяльныя ўмовы для нацыянальнага экспарту, бо робіць амерыканскія тавары занадта дарагімі на замежных рынках, дзе яны падаражэлі за апошнія 5 гадоў больш як на 30%. На экспартна-арыентаваных прадпрыемствах за 2 гады скарочана больш за 400 тыс. працоўных месцаў.

**Андрэй КАРПОВІЧ**

# Чарнобыльскі рытуал

## *Пасляслоўе да паездкі Аляксандра Лукашэнкі на Гомельшчыну*

*Апошнім часам напярэдадні ці непасрэдна ў дзень угодкаў Чарнобыльскай катастрофы кіраўнік дзяржавы абавязкова прылятае верталётам на Гомельшчыну. Тут пад аб'ектывамі тэлекамераў публічна агучваюцца самыя розныя праблемы забруджаных радыяцыяй тэрыторый. Выдатная атрымліваецца «карцінка». А калі яшчэ на ўсю краіну з Хойнікаў ці Чачэрску пакрытыкаваць сталічны «Чарнобыльскі шлях» апазіцыі, якая да эфіру не дапускаецца і адказаць не можа, атрымліваецца надзвычай шыкоўна. Як той казаў, угадайце з трох разоў: хто клапоціцца пра збалелую зямлю і яе людзей?*

Роўна год таму, будучы на тэрыторыі Прыпяцкага радыяцыйна-экалагічнага запаведніка, я спытаў у кіраўніка дзяржавы, якія чарнобыльскія праблемы праз паўтара дзесятка гадоў пасля катастрофы можна лічыць вырашанымі?

– Ніводная чарнобыльская праблема не вырашана, – адказаў Аляксандр Лукашэнка. – Належыць і надалей узмоцнена займацца і эканамічнымі, і сацыяльнымі, і медыцынскімі пытаннямі. Але галоўнае з іх – рэабілітацыя забруджаных тэрыторый, якія прылягаюць да «калючага дроту», каб гадоў праз 30 людзі маглі вярнуцца сюды жыць і працаваць.

Сёлетні прыезд кіраўніка дзяржавы на Гомельшчыну аказаўся абстаўлены для журналістаў недзяржаўных выданняў новымі ўмовамі.

– Вам нельга знаходзіцца на тэрыторыі спецдыспансера радыяцыйнай медыцыны! – папярэдзілі асабіста мяне за гадзіну да прыезду Аляксандра Лукашэнкі на Гомельскі дыспансер ахоўнікі разам з кіраўніком прэзідэнцкай прэс-службы Дзмітрыем Жукам і начальніцай упраўлення інфармацыі і друку аблвыканкаму Тацянай Астраковай.

– Выходзіць, ліквідатарам у чарнобыльскай зоне можна быць, а на тэрыторыі дыспансера радыяцыйнай медыцыны – нельга?

– Вас няма ў спісе! – стаялі на сваім Жук і Астракова.

– А хто спіс складае?

– Мы.

– Дык унясіце ў спіс!

– На вас няма заяўкі.

– У прэс-службу аблвыканкаму, – кажу, – канкрэтна да Валерыя Ахлесціна, я звярнуўся яшчэ чатыры дні таму. Пра заяўку ніякай гаворкі не было.

– Нічога зрабіць не можам, – тлумачыла Астракова. – Ахлесціна няма, ён з'ехаў на хаўтуры.

У сваю чаргу супрацоўнікі службы бяспекі (адзін – Аляксей Воінаў, другі назваць сябе адмовіўся) пераконвалі, што асабіста яны ні пры чым. Спісаў яны не складаюць. Але з іх прыездам спецдыспансер узяты пад ахову, і ён цяпер – як тэрыторыя вайсковай часці, куды без пропуска – ні нагою.

***

Дыспансер радыяцыйнай медыцыны для пацярпелых ад Чарнобыльскай катастрофы будуецца ў Гомелі ўжо 9 гадоў. Для яго ўсё не хапае грошай. Іх калі і выдзяляюць на пачатку году, то потым хуценька забіраюць. Прынамсі, летась з выдзеленых 4 мільярдаў рублёў Мінфін забраў назад амаль 2 мільярды.

Як заказчык, Міністэрства аховы здароўя і ягонае гомельскае ўпраўленне просяць для ўводу напачатку хаця б аднаго лячэбна-дыягнастычнага корпусу 10 мільёнаў даляраў і 10 мільярдаў беларускіх рублёў.

Дыспансер патрэбны і для лячэння людзей, і для вывучэння ўздзеяння «малых дозаў» радыяцыі.

– Цяпер пацыенты, – сцвярджае начальнік абласнога ўпраўлення аховы здароўя Мікалай Крысенка, – раскіданы: хто – у анкалогіі, хто – у гематалогіі, хто – у эндакрыналогіі. Няма адзінага цэнтру, які б сканцэнтраваў усе ўжо вядомыя наступствы ўздзеяння радыяцыі на здароўе людзей.

Статыстыка ж не радасная. За 10 апошніх гадоў толькі на рак шчытападобнай залозы захварэлі ў рэгіёне 1 922 чалавекі, у тым ліку 460 – дзяцей і падлеткаў. Зараз рэзка вырасла колькасць захворванняў вострымі лейкозамі. Хваробы сардэчна-сасудзістай сістэмы і злаякасныя пухліны летась сталі прычынай смерці 75 працэнтаў жыхароў рэгіёну. Усё гэта і абумоўлівае патрэбу ў спецдыспансеры.

Між тым, як стала вядома, Аляксандр Лукашэнка, калі толькі з'явіўся на даўгабуд, выказаў сваё стаўленне да радыяцыйнага дыспансера: «Ці мала хто там у савецкія часы здуру выдумаў палац гэты пабудаваць». Пры гэтым кіраўнік дзяржавы загадаў міністру аховы здароўя Уладзіславу Астапенку, старшыні Гомельскага гарвыканкаму Леаніду Барабанаву і намесніку міністра ўнутраных спраў Леаніду Глухоўскаму «лінейкай вымераць кожны сантыметр». Дзеля чаго, таксама ўдакладніў: «Праект патанніць на чвэрць. Калі швейцарская фірма сёння гэтага зрабіць не можа, значыць, вызваляйцеся ад гэтай фірмы, і будзем самі дабудоўваць... Я ведаю, як яны будуюць: басейны, саўны, там яшчэ бары, рэстараны. Яны распавядаюць, што гэта сучасна – вільготнасць падтрымліваць. Майце на ўвазе, як толькі яны паставяць гэтае тэхналагічнае абсталяванне для рэгуляцыі вільготнасці, яно папрацуе год. Далей, як гэта бывае, трусамі, штанамі запруць гэтыя дзіркі і праз год будзем яшчэ грошы траціць, каб яго дэмантаваць і зрабіць нармальнае вентыляцыйнае абсталяванне, як ва ўсіх бальніцах... Гэта забетанаваны мяшок. Фундамент пад ядзерныя ракеты «Тапалі» працейшы. Усё трэба абсыцці і агледзець, каб нідзе нічога не было лішняга».

Патрабаванне зменшыць кошт даўгабуду ажно на чвэрць ставіць пад пытанне існаванне ў спецдыспансеры не толькі басейна, пансіянату на 60 месцаў, але і аддзяленняў пералівання крыві, трансплантацыі ствалавых клетак ды шмат чаго іншага. У такім разе беларускі спецдыспансер наўрад ці стане трэцім у свеце цэнтрам радыяцыйнай медыцыны – пасля японскага і французскага.

На будаўнічай пляцоўцы кіраўнік дзяржавы не абмінуў увагай і «чарнобыльскую» навуку. Найперш перапала Гомельскаму медыцынскаму інстытуту.

«Гэты медыцынскі інстытут, – заявіў Аляксандр Лукашэнка, – нам не патрэбны ў краіне. Нашы ВНУ дастаткова, па-мойму, рыхтуюць спецыялістаў».

Пры гэтым высокі госць тут жа наказваў захаваць (!) навучальную базу інстытуту для падрыхтоўкі студэнтаў і нават «увязаць» кафедры, увесь інстытут са спецдыспансерам.

Што да даследаванняў наступстваў катастрофы, то кіраўнік дзяржавы выказаўся на адрас навукоўцаў безапеляцыйна: «Мне здаецца, што яны ні чорта па Чарнобылі не робяць». І тут жа прагучала патрабаванне яшчэ раз вярнуцца да пытання перабазавання Інстытуту радыяцыйнай медыцыны і эндакрыналогіі ў горад над Сожам: «Вось у Гомелі няхай і штурхаюць навуку».

Прозвішча Юрыя Бандажэўскага, прафесара медыцыны, былога рэктара Гомельскага медыцынскага інстытуту і даследчыка «малых доз» радыяцыі на стан здароўя людзей, у гэтай сувязі ніяк не згадвалася. Абвінавачаны ў хабарніцтве і пасаджаны за краты, ён ужо амаль тры гады пазбаўлены магчымасці займацца навуковымі даследаваннямі. Навуку, як бачым, у рэгіён павінны прыехаць «штурхаць» сталічныя даследчыкі.

***

Наступнага дня, 26 красавіка, Аляксандр Лукашэнка адправіўся ў Чачэрскі раён. У калгасе «50 год БССР» ён наведаў дзіцячы сацыяльны прытулак, знаёміўся з тэхналогіяй вырошчвання на забруджаных радыяцыяй землях кукурузы на збожжа.

Праз колькі гадзін кіраўнік дзяржавы быў ужо ў райцэнтры і завітаў хвілін на дваццаць у фізкультурна-аздараўленчы комплекс СШ № 1.

Сюды, да школы, падцягнулася не меней як паўтысячы гараджанаў.

Чачэрская «вертыкаль» надзвычай старанна рыхтавалася да прыезду Аляксандра Лукашэнкі. Гэта заўважылі нават шараговыя гараджане.

– Божа мой, як рыхтаваліся, – кажа ветэран вайны Іван Канцавенка. – Мабыць, увесь бюджэт раёну загналі на гэту тэрыторыю. Таго і глядзі, заробку і пенсію не будзе месяцы тры.

У людзей рознага ўзросту я пацікавіўся, што можа змяніцца ў іхнім жыцці пасля наведання раёну кіраўніком дзяржавы. Адказвалі ўсе прыкладна на адзін манер: «Ён пабудзе тут і паедзе. Што было, тое і будзе».

Да Чарнобыльскай катастрофы ў раёне пражывала амаль 30 тысяч чалавек. Зараз – усяго 18 тысяч. Працягласць жыцця ў раёне адна з самых нізкіх: мужчын – 56,6 году, жанчын – 72,6.

Больш як у 30 паселішчах раёну ў прадуктах харчавання з прыватных гаспадарак рэгіструецца перавышэнне нават нарматыўных узроўняў радыенуклідаў, і асабліва ў малацэ.

Сам Аляксандр Лукашэнка распавёў чачэрцам, што ў свой час ён прыняў непапулярнае рашэнне: забараніў былому старшыні аблвыканкаму Мікалаю Вайцянкову адсяляць людзей з забруджанага раёну.

– І тады я прыняў непапулярнае рашэнне, – даслоўна заявіў кіраўнік дзяржавы. – Я нават баяўся, ці вы мяне зразумееце? Я забараніў цісніць на людзей. Няхай людзі самі вызначаюцца. Я ўдзячны вам, што вы засталіся і адрадзілі гэту зямлю.

Чачэрцам высокі госць абяцаў, што пастараецца сёлета ўзвесці для іх станцыю абезжалезвання вады, водазабор, паспрыяць газіфікацыі, паляпшэнню гандлёвага абслугоўвання і нават пабудаваць сучасную тэлефонную станцыю, каб спярша моладзь, а пасля і сталыя людзі мелі сотавыя тэлефоны. «Вось гэтыя тэлефоны з правадамі адыходзяць. У Германіі іх амаль няма. Ужо будзе радыётэлефон, звычайны тэлефон без гэтых правадоў... Зянон, перадай Ганчарэнку (*міністру сувязі. –* **Аўт.**), каб у Чачэрск паставілі станцыю, – наказваў свайму памочніку ў рэгіёне Зянону Ломацю кіраўнік дзяржавы.

Калі чыноўнікі не будуць слухацца, не стануць своечасова выплачваць пенсіі, зарплату, ім ліха не мінуць. «За тое мы будзем начальнікам рэзка адкручваць галовы, – публічна папярэдзіў Лукашэнка і амаль тут жа прызнаўся: – Як у Расіі, так і ў нас склалася цяжкая атмасфера. Але пакуль цэрпім, працуем па старых правілах».

У Чачэрску высокі госць нечакана ўспомніў пра Гомельскі спецдыспансер і абяцаў нават сёлета прыехаць яшчэ на адкрыццё лячэбна-дыягнастычнага корпусу. «Мною даручана ўчора ўраду і вашаму губернатару Аляксандру Якабсону – мы першую чаргу ў гэтым годзе ўвядзём, сканцэнтруем, аб'яднаем грошы. У наступным годзе – другую чаргу. Створым суперсучасныя цэнтры на базе гэтай бальніцы, для гэтага рэгіёну, каб тут можна было лячыць людзей. Забяспечым транспартам, каб у любы момант прыехаў у Чачэрск, хворага чалавека забраў, праляцеў – і назад аддаў. Сёння мяне гэта радуе, што абстаноўка па здароўі нядрэнная. Але дзе гарантыя, што заўтра людзі не будуць хварэць?»

Па-рознаму гараджане ставіліся да выказванняў кіраўніка дзяржавы.

– Прэзідэнт абяцае адно, – мяркуе Васіль Казлоў, – а ў нас улады сваё робяць.

Маладая маці Тацяна з сынам на руках прыйшла да школы, каб пачуць пра нейкія перамены ў забеспячэнні жыллём.

– Хачу, каб у нашым горадзе, – сказала яна, – пачалося будаўніцтва жылля. Усім маладым сем'ям патрэбна жыллё. Мы з мужам здымаем кватэру. Плацім 10 даляраў і яшчэ за камунальныя паслугі.

Іншыя маладыя людзі скардзіліся на адсутнасць працы ў райцэнтры.

У пенсіянера Мікалая Канухова свая балячка: з адсяленнем ягонай сям'і ў Новалукомль мясцовыя ўлады шмат гадоў валаводзілі, ды так яе і не перасялілі. Зараз адсяленне з Чачэрску спынена. У дзяржавы няма на гэта сродкаў. Да таго ж пасля 1996 году райцэнтр, як і шэраг іншых паселішчаў, «пачысцеў». Радыяцыі тут, паводле новых урадавых дакументаў, стала меней.

Дарэчы, на тэрыторыі Гомельскай вобласці, дзе ўзроўні забруджвання радыяцыяй складаюць 15–40 кюры на квадратны кіламетр, жывуць яшчэ амаль 3 700 сем'яў, у тым ліку і з дзецьмі. Большасць з іх яшчэ і зараз жадаюць выехаць у чыстыя зоны, але няма куды. Кватэры для іх дагэтуль не пабудаваны.

Пакуль народ выказваўся «пра жыццё-быццё», Аляксандр Лукашэнка зрабіў асобна для журналістаў незвычайную заяву. Ён сказаў пра гатоўнасць Беларусі купіць у Літвы Ігналінскую атамную станцыю. Як лічыць кіраўнік дзяржавы, гэта выдатная станцыя, і калі яе зачыняць, страціць не толькі Літва, але і Беларусь.

**Анатоль ГАТОЎЧЫЦ,**
**ліквідатар наступстваў аварыі на ЧАЭС**
***Гомель–Чачэрск***




Фота Ул. ШЛАПАКА

Гомельская вобласць, Добрушскі раён, вёска Маркаўка

# Каму стане лягчэй?

## З ліку абавязковых іспытаў у школе скасавалі беларускую літаратуру

*Праз паўмесяца ў беларускіх сярэдніх школах распачнуцца выпускныя іспыты. Сёлета старшакласнікі цешацца з палёгкі, якую зрабіла ім нядаўна Міністэрства адукацыі: здаваць давядзецца не шэсць экзаменаў, як раней, а ўсяго толькі чатыры. Аднак многія лічаць, што гэтае рашэнне можа пацягнуць за сабой негатыўныя наступствы ў нашай сістэме адукацыі.*

Мінулымі гадамі з шасці выпускных іспытаў у беларускіх школах чатыры існавалі як абавязковыя, а яшчэ два на выбар. Абавязковымі былі экзамены па матэматыцы, па беларускай ці рускай мове, вусныя экзамены па замежнай мове і беларускай літаратуры. Цяпер Міністэрства адукацыі пазбавіла вусныя іспыты па замежнай мове і беларускай літаратуры статусу абавязковых. У выніку абавязкова трэба здаваць толькі матэматыку і беларускую ці рускую мову (абодва прадметы пісьмова). Яшчэ два экзамены здаюцца на жаданне вучня.

Натуральна, што адмена абавязковых выпускных экзаменаў па любым прадмеце прывядзе да таго, што школьнікі будуць ставіцца да яго падчас вучэбнага курсу значна больш абыякава, чым дагэтуль. Навошта дарма намагацца? Праўда, у англійскай, французскай ці нямецкай мовы становішча выглядае нашмат выгаднейшым, чым у беларускай літаратуры. Іспыт па замежнай мове зараз трэба здаваць пры паступленні амаль ва ўсе вышэйшыя навучальныя ўстановы, таму вучні будуць вучыць яе досыць старанна і не зважаючы на будучы экзамен. Да ўсяго апошнім часам мода на веданне замежнай мовы – і не адной – увавідкі павялічылася.




Скасаванне ж вуснага іспыту па беларускай літаратуры яшчэ больш абцяжарыць негатыўны ўплыў рэферэндуму, які усталяваў у Беларусі дыскрымінацыйны для беларускай мовы і літаратуры білінгвізм. Як будзе разважаць моладзь? А вось так: нашто нам тая «беліт», калі экзамен па ёй здаваць не прыйдзецца? Не сакрэт, што часта менавіта перспектывай іспыту настаўнікі заахвочвалі вучняў да больш-менш грунтоўнага вывучэння беларускай літаратуры.

Паводле словаў знаёмага настаўніка, прэстыж гэтага прадмету будзе вельмі падарваны. Ён параўноўвае цяперашні захад Міністэрства адукацыі з тым, як за савецкім часам бацькам давалася права самім вырашаць, ці будзе іхняе дзіця вывучаць беларускую мову і літаратуру: «Усе валам пачалі карыстацца гэтым і адмаўляцца ад вывучэння роднай мовы і роднай літаратуры. Наш дырэктар школы тады сказаў: дарма так робіце, бо паглядзіце – будзеце рэпетытараў наймаць потым. Тое самае адбываецца і зараз: можаце здаваць беларускую літаратуру, а можаце не здаваць. Ну, натуральна, вучні будуць адмаўляцца, бо гэта ж 30 білетаў па 2 пытанні плюс урывак вершаваны ці празаічны напамяць. З двух маіх класаў толькі два чалавекі вырашылі сёлета здаваць беларускую літаратуру. Прычым усё гэта падаецца так, што ўсё залежыць ад ініцыятывы знізу. Маўляў, сам народ хай вырашае. А потым пачнуць казаць – бачыце, які выбар і жаданні ў народа... Ужо не раз такое было. І вось чарговы наступ на беларускую культуру езуіцкім чынам».

Кірыла ПАЗЬНЯК

**ШКОЛА**

### Ільготнікі ў аплаце за падручнікі

Паводле ўрадавай пастановы, у наступным (2002/2003) навучальным годзе бацькам таксама давядзецца плаціць за карыстанне падручнікамі 50% ад іх кошту.

Не будуць спаганяцца грошы за падручнікі з бацькоў, дзеці якіх навучаюцца ў агульнаадукацыйных школах-інтэрнатах для дзяцей-сірот і дзяцей, што засталіся без бацькоўскай апекі; у класах для асобаў з асаблівасцямі псіхафізічнага развіцця ў агульнаадукацыйных школах; у спецшколах для дзяцей, што вымагаюць адмысловых умоваў выхавання; у санаторных школах-інтэрнатах і ў школе лагеру «Зубраня». Апрача таго, пазбегнуць аплаты за падручнікі сем'і, чый сукупны даход у месяц за папярэдні год не перавышае 80% ад бюджэту пражытковага мінімуму; сем'і, дзе адзін ці абодва бацькі маюць I ці II групу інваліднасці.

Правы на 50%-ную зніжку аплаты за падручнікі маюць бацькі, якія выхоўваюць трох і болей дзяцей дашкольнага і школьнага веку.

Кірэй МАНУЙЛА

# Народ існуе праз мову...

***– Скажыце, Андрэ, як даўно Вы ў нас? З якой мэтай прыехалі?***

– Я прыехаў у Мінск паўтара года таму вывучаць расійскую мову па адукацыйным абмене паміж універсітэтамі ў Мінску і Бохуме (Нямеччына).

***– Тады дазвольце спытацца, адкуль такое выдатнае валоданне беларускай?***

– Паколькі я апынуўся ў Беларусі, палічыў натуральным дый неабходным вывучыць родную мову беларусаў, хаця б на пачатковым узроўні. Упершыню беларускае слова пачуў ад настаўнікаў, што выкладалі спецкурс беларускай мовы. Дарэчы, курс быў досыць інтэнсіўны.

***– Я ведаю, што Вы ўсур'ёз зацікавіліся нашай літаратурай. Ці можна сказаць, што Вы да нашай літаратуры прыйшлі праз мову?***

– Можна сказаць і так. У Нямеччыне я ніколі не чуў беларускай мовы, хоць, натуральна, ведаў, што такая ёсць. А тут у мяне была, так бы мовіць, заангажаваная настаўніца, якая рупілася пра тое, каб я не проста авалодаў навыкамі маўлення, але і азнаёміўся з культурнай спадчынай, літаратурай, гісторыяй Беларусі.

***– Трохі правакацыйнае пытанне, і ўсё ж: ці лічыце Вы перспектыўным з навуковага пункту гледжання вывучаць беларускую літаратуру? Зараз ужо навязла на зубах т.зв. праблема глабалізацыі – у нас таксама часта можна пачуць нешта накшталт такога: малыя мовы (адпаведна і літаратуры) усё роўна знікнуць, з цягам часу запануюць мовы-гіганты – гэта незваротны працэс...***

– Мяркую, што перспектыўна, бо ў Нямеччыне няма ніводнага спецыяліста па беларускай мове, дый літаратуры таксама. Я нават спецыяльна перавёўся з Бохумскага універсітэту ў Лейпцыг, дзе надзвычай папулярная славістыка, але ж выкладанне і беларускую, і украінскай на вельмі нізкім узроўні, як мне падалося. Такім чынам, працы непарадзе шмат.

Андрэ Бём – звычайны нямецкі студэнт-філолаг, прыехаў амаль два годы таму з гораду Бохуму, што славіцца сваім вялікім універсітэтам, у Мінск вучыцца *расійскай* мове (што цалкам натуральна для нашай рэчаіснасці)... Сядзіць насупраць мяне, пасміхаецца, прыгожа гамоніць на правільнай беларускай, распавядае, як упадабаў беларускую літаратуру – Караткевіча, Разанава, Быкава. Я мрою: можа, перада мной чалавек, які калі-небудзь перакладзе іхныя творы на нямецкую. І, не хаваючы свайго захаплення, пытаюся: "Як так? Прыехалі вучыць расійскую, а вывучылі беларускую, ды яшчэ так выдатна. Навошта Вам гэта?" Ён не разумее пытання, напружана спрабуе здагадацца, што ж я хачу пачуць ад яго. Павольна адказвае: "Ну, а як інакш? Прыехаў у *Беларусь* – вывучыў *беларускую* мову..."

Здаровы спакойны розум не ў стане ўсвядоміць, чаму некаторых да слёз кранае, што іншаземец пачынае сур'ёзна і шчыра цікавіцца нашай мовай і культурнай спадчынай.

***– Значыць, варта?***

– Безумоўна, варта, бо любая мова – жывы цэласны арганізм. І беларуская мова вартая таго, каб яе вывучалі, бо яна здольная выразіць увесь спектр пачуццяў, думак чалавека. На жаль, мне часам здаецца, што я самотны ў такім сваім меркаванні. І усё ж я маю дастаткова сяброў, якія прынцыпова размаўляюць і пішуць па-беларуску – значыць, практыкі мне хапае.

***– Як на Вашую думку, ці можа такая шчырая цікавасць збоку да нашай мовы і культуры прымусіць беларусаў па-іншаму, з новага гледзішча зірнуць на свае праблемы?***

– Думаю, у беларусаў хопіць свайго ўнутранага патэнцыялу разабрацца ў саміх сабе.

***– Вернемся да літаратуры. Як шырока Вы ўжо пазнаёміліся з беларускай літаратурнай спадчынай? Ці падалася яна Вам спецыфічнай у плане адлюстравання свету, сістэмы маралі, ці адрозніваецца яна ад іншых вядомых Вам славянскіх літаратур?***

– Пакуль яшчэ не магу назваць сябе добрым знаўцам беларускай літаратуры. Найлепей знаёмы з літаратурай XX стагоддзя, бо, думаецца, у XIX-ым у літаратуры было менней магчымасцяў свабодна развівацца. Што датычыць спецыфікі, думаю, беларуская літаратурная традыцыя адметная тым, што тут пісьменнікам заўсёды прыходзілася змагацца за самастойнасць і самабытнасць; зразумела, расійскія пісьменнікі не існавалі ў такіх экстрэмальных умовах. З беларускай літаратурнай спадчынай немцы слаба знаёмыя, але магу сказаць, што ў нас найбольш папулярныя цяпер Быкаў, Алексіевіч, Адамовіч.

***– З гэтага можна зразумець, што ў вас папулярная менавіта нашая ваенная літаратура. Вы можаце як-небудзь гэта патлумачыць? Ці не бянтэжыць Вас, што якраз гэтая тэма была моцна ідэалагізаваная, таму цяпер такія творы вострa крытыкуюцца?***

– Насамрэч ваенная літаратура заўсёды нас вельмі цікавіла. Чаму найперш Быкаў? Таму што ён якраз ніколі не праслаўляў вайну, не апяваў (як рабілі некаторыя пісьменнікі на замову). У яго ных творах адбіўся, так бы мовіць, франтавы погляд на рэчаіснасць – погляд з сярэдзіны. Вось чаму ён цікавы і чаму ў савецкі перыяд яго не ўспрымалі, не разумелі яго най глыбіні, псіхалагізму. Вельмі папулярная ў нас Алексіевіч. Я яе таксама чытаю, але ведаю, што яе не надта любяць у вас, можа, за яе натуралістычны, непрыхаваны паказ праўды, прыроды, калі можна так сказаць. А ў вас, прабачце, праўду не надта любяць.

***– А хто Вам асабіста падабаецца найболей?***

– Караткевіч, Багдановіч, Алесь Разанаў – як шукальнікі новых формаў, наватары, як асобы, якія разбурылі стэрэатып пра вясковасць, мужыкасць беларускай нацыянальнай літаратуры. Караткевічам я даўно пачаў цікавіцца. Але нядаўна нават вырашыў пісаць дыплом па ягонай творчасці.

***– Чаму Караткевіч: гучнае імя ці прыватныя сімпатыі?***

– І тое, і тое. Па-першае, ён насамрэч вельмі папулярны, найперш у моладзі (дарэчы, «Дзікае паляванне караля Стаха» – адзіны твор, перакладзены на нямецкую мову); па-другое, хоць тэма дыпломнай працы яшчэ дэталёва не сфармуляваная, але ўжо ведаю дакладна, што хачу вывучаць чалавека ў Караткевіча, ягоныя маральныя пошукі. Я адчуў, што Караткевіч – унікум, надзвычайны эрудыт, інтэлектуал: ён у мінуўшчыне імкнуўся адшукаць прычыны праблемаў сучаснасці, даследаваў іх вытокі, шляхі развіцця беларускай гісторыі, што важна, самавызначэння, самасвядомасці беларуса.

***– А што скажаце наконт савецкага перыяду развіцця беларускай літаратуры? Ці моцна, на Вашую думку, савецкая мараль і ідэалогія паўплывала на беларусаў?***

– Безумоўна, паўплывала, але час усё паставіў на свае месцы: т.зв. «аптымістычныя» пісьменнікі, якія спявалі славу рэжыму, пісалі на замову, ужо зніклі, іх няма – і іх ужо не чытаюць, яны нікога не хвалююць, а такія моцныя асобы, як Быкаў – засталіся.

***– Цікава, а які беларускі твор Вы назвалі б тыповым?***

– Як я ўжо казаў, дагэтуль жывы стэрэатып, што цэнтральны герой вашай літаратуры – селянін, дык паводле стэрэатыпу – «Новая зямля», «Паўлінка». Але, падкрэсліваю, паводле стэрэатыпу.

***– Можа, я памыляюся, але мне здаецца, што вельмі важна мець трывалую традыцыю здаровай літаратуразнаўчай крытыкі, што таксама задае тон, усталёўвае тыя ці іншыя прынцыпы, шкалу каштоўнасцяў урэшце. Чаго, як Вы думаеце, бракуе сучаснай беларускай літаратуразнаўчай традыцыі?***

– Магу сказаць, што ў постсавецкі перыяд беларуская крытыка зазнала сапраўдны крызіс, яна яшчэ жыве старымі штампамі, а ёй трэба адшукаць новыя формы.

***– Што б Вам хацелася сказаць, чаго я ў Вас не спытала?***

– Не ведаю... Я сам ужо не раз заўважаў, што пачынаю проста прапагандаваць беларускую мову, культуру: вось прывёз маладых немцаў-студэнтаў – журналістаў, гісторыкаў, лінгвістаў і інш., каб знаёміліся з Беларуссю, беларускай мовай і рэчаіснасцю. Я не прымушаю размаўляць па-беларуску, бо прымусіць немагчыма, але ж тлумачу, што варта захоўваць, рэанімаваць родную мову. Бо народ існуе праз мову. Калі народ не размаўляе на роднай мове – яму цяжэй будзе знайсці **свой** шлях. Дарэчы, у мяне нявеста беларуска, добра ведае беларускую мову, але размаўляе часцей парасійску, але я над гэтым яшчэ працую...

Гутарыла Анэля СІЛІЧ



Філалагічны факультэт Бохумскага універсітэту

# 55-ты кінафестываль у Канах

*У сераду ўвечары ў галоўнай залі Канскага Палацу фестываляў, які носіць імя братоў Люм'ер, паказам апошняга фільму вядомага амерыканскага актора і рэжысёра Вудзі Алена «Канец Галівуду» адкрыўся 55-ты юбілейны Канскі міжнародны кінафестываль.*



Адборачная камісія Канскага кінафестывалю прагледзела перад цяперашнім юбілейным аглядам сусветнага кіно 2 тысячы 281 фільм з 89 краін свету – 939 поўнаметражных і 1 тысячу 342 кароткаметражных стужак.

У галоўным конкурсе, у якім пойдзе змаганне за галоўную ўзнагароду Канскага кінафестывалю – залатую пальмавую галіну – прадстаўлены 21 фільм рэжысёраў з 15 краін свету.

«Галоўнае журы» фестывалю сёлета ачольвае амерыканскі кінарэжысёр з сусветным імем Дэвід Лінч, чые фільмы не раз атрымлівалі найвышэйшыя ўзнагароды ў Кане. Другі славуты амерыканскі кінарэжысёр Марцін Скарсезе, які ўжо быў ачольваў «галоўнае журы» Канскага кінафестывалю, гэтым разам старшынюе ў журы конкурсу кароткаметражных стужак і фільмаў з раздзелу Кінафонду, у якім будуць дэманстравацца новыя працы розных сусветных кінашколаў.

У галоўнае журы фестывалю, акрамя яго старшыні Дэвіда Лінча, увайшлі таксама славутая амерыканская кінаактрыса Шарон Стоўн, кінаактрысы Крыстын Хакім (Інданезія), Мішэль Йео (Ганконг), рэжысёры Біл Аўгуст (Данія), Клод Мілер, Рауль Руіз і Рэжыс Варнье (Францыя), Вальтэр Салес (Бразілія).

Сярод зорак першай велічыні на гэтым сусветным свяце кіно гледачы змогуць пабачыць Шарон Стоўн, Леанарда дзі Капрыо, Патрысію Каас, Камерон Дыяс, Эмілі Уотсан, Сержыю Кастэліта, Брайана Адамса, Клаўдыю Кардынале, Шарля Азнавура.

На надбярэжжы Ля Круазет адбылося ўрачыстае «ўключэнне» 55 музычна-светлавых калонаў, якія, нібыта рознакаляровыя юбілейныя свечкі, вечарамі асвятляюць неба над Канскім узбярэжжам. З усталяваных побач дынамікаў будзе ліцца музыка найлепшых конкурсных фільмаў фестывалю.

Другой цікавай навіною стане конкурс стужак першага Канскага міжнароднага кінафестывалю, які меўся адкрыцца ўвосень 1939 году, але не адбыўся, бо пачалася Другая сусветная вайна. Сярод 7 адабраных і аднойчы ўжо паказаных стужак таго фестывалю ёсць фільм савецкага рэжысёра Міхаіла Рома «Ленін у васемнаццатым годзе». Гэтыя фільмы будуць дэманстравацца ў першыя 3 дні фестывалю, а 19 траўня журы, на чале якога стаіць вядомы французскі пісьменнік і гісторык кіно Жан д'Армесон, абвесціць пераможцаў таго, няздзейсненага фестывалю 1939 году.

55-ты Канскі міжнародны кінафестываль завершыцца 26 траўня, калі на цырымоніі ўрачыстага закрыцця будуць названыя яго пераможцы.

Аднак яшчэ да адкрыцця кінафестываль апынуўся ў цэнтры скандалу. Рэч у тым, што на мінулым тыдні Амерыканскі габрэйскі кангрэс заклікаў актораў і іншых дзеячаў кіно не ездзіць у Каны, бо, на думку прадстаўнікоў гэтай арганізацыі, у Францыі апошнім часам антысеміты выяўляюць асаблівую актыўнасць. Ад пачатку вясны адбыўся цэлы шэраг нападаў на сінагогі ў буйных гарадах краіны, адзін з культавых будынкаў у Марселі быў спалены дашчэнту.

Амерыканскі габрэйскі кангрэс апублікаваў у штодзённым галівудскім выданні на правах рэкламы заклік калі не байкатаваць Каны, дык хоць бы скарыстаць нагоду выступіць там у абарону габрэяў.

Другія габрэйскія арганізацыі Амерыкі заклікалі суродзічаў устрымацца ад падарожжаў у Еўропу, асабліва ў Францыю, на фоне ізраільска-палесцінскага канфлікту антысеміцкія вылазкі там пачасціліся.

У сваю чаргу рэжысёры Клод Лелюш і Клод Ланзман супольна з адным з вядучых дзеячаў габрэйскай супольнасці Францыі ў газеце *Monde* выказалі сваю незадаволенасць пазіцыяй Амерыканскага габрэйскага кангрэсу. Яны таксама шкадуюць, што кангрэс заклікаў байкатаваць Канскі кінафестываль.

# Украіна – канкурэнт Беларусі ў гандлі зброяй

*Паводле звестак экспертаў Стакгольмскага міжнароднага інстытуту даследаванняў праблемаў міру, Украіна займае сёмае месца ў спісе сусветных экспарцёраў зброі. Яшчэ гады тры назад Украіна займала дзевятую пазіцыю, але з таго часу абышла Беларусь і Іспанію. На долю ўкраінскага збройнага экспарту прыпадае каля 1% сусветнага рынку.*



Вядома, Украіне далёка да такіх монстраў збройнага бізнесу, як ЗША (у 2001 годзе нагандлявалі 20 млрд. даляраў), Францыя (4,1 млрд.), Расія (каля 4 млрд.), але лічбы за 2000 год супастаўныя з паказчыкамі Германіі (1,1 млрд. даляраў) і Вялікабрытаніі (600 млн. даляраў).

Украіна прымусіла гаварыць пра сябе як пра буйнога экспарцёра зброі ў сярэдзіне 1990-х гадоў, калі быў заключаны кантракт з Пакістанам на пастаўку 320 танкаў (парадку 640 млн. даляраў), Ірану былі прададзены 12 самалётаў АН-74, а Эквадору – партыя комплексаў супрацьпаветранай абароны «Аса».

Але і да гэтага экспартныя магчымасці краіны былі досыць вялікія. Хоць пашырэнне экспарту ажыццяўлялася экстэнсіўным шляхам, за кошт тае зброі, што засталася на складах Украіны ад Савецкай Арміі.

Агульны кошт ваеннай маёмасці на тэрыторыі Украіны ў 1989 годзе складаў 89 млрд. даляраў. Частка гэтай маёмасці была вывезена ў Расію, частка – распрададзена. У першыя гады незалежнасці прапаркантраляваць усе склады Савецкай Арміі, якая раскладалася на вачах, было немагчыма. Добра хоць з ядравай зброяй удалося разабрацца.

Але галоўнае тое, што Украіна ўзяла ў спадчыну ад СССР амаль трэцюю частку прадпрыемстваў савецкага ВПК. На ўкраінскіх заводах выпускалася такая унікальная ваенная тэхніка, як цяжкія авіяцыйныя і ракетныя крэйсеры, сілавыя ўстаноўкі для караблёў, ракетна-касмічныя вырабы.

Нягледзячы на ўсе негатыўныя працэсы, Украіна дагэтуль захавала здольнасць забяспечыць распрацоўку і вытворчасць вялікага спісу ваеннай прадукцыі. У адрозненне ад, скажам, беларускіх збройнікаў, якія пасля вычарпання старых запасаў рэзка здалі пазіцыі на сусветных рынках, украінскі АПК мае досыць высокі патэнцыял уласнай вытворчасці.

У 2000 годзе ўкраінскі экспарт узбраенняў прынёс каля 500 млн. даляраў. Больш за 50% гэтага аб'ёму склалі ўзоры, створаныя прадпрыемствамі абароннага комплексу, а не тэхніка і ўзбраенне са старых армейскіх запасаў.

Сітуацыю з экспартам зброі ўскладняе пазіцыя ЗША. Вашынгтон не толькі не паслабляе, а наадварот – нарошчвае ціск па збройнай лініі. Справа аб пастаўцы ў Ірак «Кальчугі» мае не толькі ўнутрапалітычную падаплёку (падтрымка праамерыканскіх сіл у краіне ў перыяд паміж выбарамі), але і служыць выразным сігналам пра непажаданасць украінскай прысутнасці на рынках такіх краін, як Лівія, Сірыя ці Іран.

Перспектыўным напрамкам экспартнай палітыкі Украіны павінны стаць дробныя здзелкі аб'ёмам да 200 тыс. даляраў. Да іх выяўляюць цікавасць такія краіны, як Вялікабрытанія, Германія...

Гэтая акалічнасць важная таму, што супрацоўніцтва з рэспектабельнымі партнёрамі дазваляе падтрымліваць у вачах Захаду пазітыўны імідж краіны. Тым больш што ў ліпені 1996 году Украіна далучылася да Васенаарскіх дамоўленасцяў, якія прадугледжваюць выкананне правілаў аб нераспаўсюджванні зброі і недапушчэнні, каб яна трапляла ў рукі рэжымаў, што недасяжныя сусветнай супольнасці.

Відавочна, аднак: без скарачэння і прафесіяналізацыі ўкраінскай арміі, якая зможа купляць айчынную прадукцыю, і прытоку прыватных інвестыцыяў у гэты сегмент эканомікі дамагчыся прарыву будзе немагчыма.

**Forum.com**

# У Чачні пакараны смерцю забойца Хатаба

У Чачні паводле прысуду так званай вайсковай рады шуры расстраляны жыхар Дагестану, абвінавачаны ў атручэнні Хатаба, паведамляе *РИА «Новости»* са спасылкаю на катарскае інфармацыйнае агенцтва КНА.

Прысуд выкананы ў панядзелак, 13 траўня. Агенцтва прыводзіць заяву вайсковай рады шуры, нібыта распаўсюджаную ў Грозным, у якой паведамляецца, што пакаранага завуць Ібрагім Алауры і што ён аварац з Дагестану.

Алауры абвінавачаны ў «здрадзе і супрацоўніцтве з дагестанскай разведкай». Згодна з заявою, ён падсыпаў атруту ў ліст, накіраваны Хатабу.

**Lenta.ru**

# Спрэчныя землі Кіргізіі і Кітаю

Верхняя палата парламенту Кіргізіі адмовілася ратыфікаваць дадатковае памежнае пагадненне з Кітаем, паводле якога паміж дзвюма краінамі павінен быць падзелены кавалак памежнай тэрыторыі плошчаю больш за 270 тысяч гектараў, паведамляе *РИА «Новости»* са спасылкаю на прэс-службу кіргізскага парламенту. Згодна з дасягнутым паміж краінамі пагадненнем, участак памежнай тэрыторыі паблізу Узенгі-Кууш падлягае падзелу паміж Кіргізіяй і Кітаем, прычым Кіргізіі адыходзіць 70% земляў. Паводле першапачатковага плану тэрыторыі меркавалася падзяліць пароўну.




Ніжняя палата кіргізскага парламенту ўжо ратыфікавала пагадненне 10 траўня. Аднак пасля масавых маніфестацыяў праціўнікаў гэтага пагаднення, што прайшлі ў аўторак у Бішкеку, верхняя палата адмовілася яго ратыфікаваць.

Праблема спрэчных тэрыторыяў на гэтым участку ўзнікла ў 1964 годзе, калі афіцыйна існавалі дзве мяжы: адна была пазначана на мапах КНР, другая – на мапах Савецкага Саюзу, а потым і Кіргізіі.

Паводле словаў прэзідэнта Кіргізіі Аскара Акаева, ратыфікацыя гэтага пагаднення «дасць рэспубліцы вялізныя магчымасці для пашырэння ўзаемавыгадных кантактаў з суседнім Кітаем». Аднак, на думку большасці сенатараў, спрэчныя землі, багатыя на гідрарэсурсы, – «спрадвеку кіргізскія» і павінны застацца тэрыторыяй Кіргізіі.

# Людзі гінуць ад спёкі

Цеплавыя ўдары і абязводжванне сталіся прычынай смерці сама менш 178 чалавек у індыйскім штаце Андхра Прадэш, што ляжыць на поўдні краіны. У самым спякотным раёне на ўзбярэжжы Бенгальскага заліву тэмпература сягае 48 градусаў па Цэльсіі, у сярэднім па штаце слупок тэрмометра трымаецца на ўзроўні 40–45 градусаў. Улады радзяць не выходзіць з дамоў ад палудня да чатырох гадзінаў дня, перадае *Reuters*.

Спякота, што стаіць у Індыі, – самая моцная за апошнія чатыры гады. Па прагнозе метэаролагаў, у прыбярэжных раёнах тэмпература застанецца на папярэднім узроўні яшчэ суткі, а потым пачне зніжацца. Звычайна на пачатку чэрвеня ў Індыі пачынаецца трохмесячны сезон дажджоў.

Амаль кожны год дзесяткі людзей у Індыі паміраюць ад спёкі. Самая вялікая колькасць ахвяраў была адзначана ў 1998 годзе, калі ледзь не 50-градусная спякота забіла больш як 800 чалавек.

# Пошук жыццядайных планет

Нацыянальнае касмічнае агенцтва ЗША абвесціла пра завяршэнне конкурсу на распрацоўку праекту будучых арбітальных тэлескопаў, задачай якіх будзе пошук планет, прыдатных для жыцця і блізкіх па характарыстыках да Зямлі, паведамляе *CNN*.



Конкурсная камісія цягам 2,5 гадоў разглядала конкурсныя праекты і выбрала два з больш чым 60-ці. Іх назвалі «найбольш рэальнымі для далейшага вывучэння і дапрацоўкі».

Адзін з праектаў, які называўся «Шукальнік землепадобных планет», уяўляе сабою пэўную колькасць маленькіх інфрачырвоных інтэрферометраў, размешчаных такім чынам, што яны ўтвараюць адну вялікую абсерваторыю.

*CNN* апісвае прынцып яго дзеяння, як «грэбень», зубы якога будуць «адсейваць» святло зорак, прапускаючы слабое выпраменьванне больш дробных аб'ектаў.

Другі фіналіст – «Каранограф бачнага святла» – будзе звычайным аптычным тэлескопам з люстрам большым, чым люстра знакамітага тэлескопа *Hubble*. Апроч таго, ён будзе абсталяваны спецыяльнай оптыкай для блакавання зорнага святла.

Як чакаецца, прынамсі адзін з гэтых праектаў будзе рэалізаваны на працягу найбліжэйшых дзесяці гадоў.

# Час абзаводзіцца скляпамі

*З 19 траўня ўступае ў сілу закон «Аб хаўтурах і пахавальнай справе», прынятыя заканадаўцамі яшчэ мінулай восенню. Цяпер кожны з нас, звычайных смяротных, зможа выбіраць сабе месца для пахавання на грамадскіх і канфесійных могілках, на родавых пахаваннях і нават у склепе.*

**Даведка НАШАЙ СВАБОДЫ**

Вось якія кошты на рытуальныя паслугі ў Мінскім спецкамбінаце камунальна-бытавога абслугоўвання. Труна каштуе ад 40 да 961 тысячы рублёў. Вянок – ад 7 да 60 тысяч, самая простая шыльда з прозвішчам, датамі нараджэння і смерці – 3 тысячы рублёў, праца далакопаў абыдзецца ў 20 тысяч, катафалк – у 53 тысячы, а аркестр – у 25 тысяч рублёў.

Вызначыцца з тым, як і куды накіравацца ў апошні шлях, можна яшчэ загадзя – пры жыцці. А чаму б і не? Напрыклад, у Заходняй Украіне зараз адзін з самых модных і дарагіх падарункаў на вяселле – гэта склеп.

Каб пажаданні, як вас пахаваць, былі прызнаныя за афіцыйнае волевыяўленне, дастаткова выказаць іх пры сведках і атрымаць згоду асобы, якой вы хочаце даверыць выкананне тэстаменту. Прычым выступаць у гэтай ролі можа хто заўгодна: сваяк, сусед, калега з працы, любая арганізацыя і нават банк, у якім загадзя трэба адкрыць адмысловы рахунак на хаўтуры. Загадзя можна вызначыцца і з далейшым лёсам сваіх парэшткаў: можна забараніць кранаць цела паталагаанатаму, калі ўскрыццё не абавязковае, ці наадварот, завяшчаць яго медычнай установе для выкарыстання ў навуковых доследах.

Вернікі маюць магчымасць быць пахаванымі паводле ўсіх абрадаў сваёй рэлігіі на веравызнаўчых могілках. Гэта адмыслова адведзеныя месцы на тэрыторыі грамадскіх могілак для пахавання прадстаўнікоў адной веры. Можна загадзя прыдбаць кавалак зямлі для родавага пахавання і паступова хаваць на ім сваіх родных. Гэтак і нашчадкам будзе зручней: усе сваякі-нябожчыкі ў адным месцы, і на Радуніцу ці Дзяды не трэба будзе разрываца, каб паспець да ўсіх сваякоў-нябожчыкаў на розныя могілкі. Нарэшце, можна прыдбаць уласны родавы склеп. У параўнанні з сямейнымі пахаваннямі месца ён займае менш, а ўмясціць можа шмат пакаленняў сваякоў. Месц такія сямейныя пахаванні і скляпы на беларускіх могілках маюць права толькі грамадзяне Беларусі.

Можна зрабіць зусім сціпла – завяшчаць сваё цела крэміраваць, а урну з попелам змясціць у адну з ячэек так званай сцяны смутку – калумбарыю. Аднак большасць усё ж выбірае зямлю на звычайных грамадскіх могілках. Зямлю пад пахаванне дзяржава выдзяляе бясплатна, а не памеры месца розны – ці бы хапіла месца для пахавання другога сужэнца альбо аднаго з бліжэйшых сваякоў.

Тым асобам, якія бяруць на сябе арганізацыю пахавання, дзяржава на іхні выбар мусіць дапамагчы ці грашыма, ці бясплатнымі паслугамі ў межах грашовай дапамогі. Задарма, напрыклад, можна атрымаць труну, надмагільную драўляную тумбу альбо крыж з шыльдай, паслугі па іхняй дастаўцы, перавозцы цела нябожчыка на могілкі ці ў крэматорый, пахаванне альбо крэмацыю. Гэта так званы гарантаваны пералік паслуг.

Памер грашовай дапамогі тры гады таму быў вызначаны ў памеры аднаго сярэдняга заробку рабочых і службоўцаў за пазамінулы месяц адносна месяца надыходу смерці. Калі нябожчык пры жыцці плаціў складкі ў фонд сацыяльнага страхавання ці атрымліваў за кошт ягоных сродкаў пенсію – дапамогу на пахаванне мусіць выплаціць гэты фонд. На пахаванне беспрацоўнага, які стаяў на ўліку, дапамогу мусяць выплаціць службы занятасці, а на пахаванне незарэгістраванага беспрацоўнага – мясцовы бюджэт.


Фота Ул.ШЛАПАКА

У тым выпадку, калі нябожчык ёсць, а хаваць яго няма каму альбо ягоная асоба не ўстаноўлена органамі міліцыі, пахаванне аплачвае мясцовы бюджэт. Натуральна, што такія пахаванні праходзяць вельмі сціпла. У Мінску такіх, а іх адпаведныя службы называюць «бясхозам», за кошт дзяржавы хаваюць па 3 чалавекі на дзень.

Яшчэ трохі сталічнай статыстыкі. У Мінску існуюць 17 могілак. Пахаванні не вядуцца з іх толькі на могілках «Дружба» на Паўднёвым Захадзе, Піянерскіх, што на праспекце Машэрава, і на Вайсковых могілках па вуліцы Казлова, якія маюць статус мемарыяльнага комплексу.

Статус помніка культуры з забаронай ладзіць тут свежыя пахаванні мусіць быць нададзены і Кальварыйскім могілкам, якія да 1997 году былі закрытыя, як і след. Тады адкрытых могілак наогул было ўсяго чацвёра. Але раптам узялі і зрабілі адкрытымі яшчэ шэраг могілак. Праўда, пахаванні на тых жа Кальварыйскіх ці Усходніх могілках дазваляюцца толькі камерцыйныя, за грошы. Хоць пустога месца тут няма, і новыя магілы робіцца на месцы старых, недагледжаных і закінутых. У свой час мінскія ўлады тлумачаць, што грошы ад камерцыйных пахаванняў ідуць на будаўніцтва Заходніх могілак за мікрараёнам Малінаўка на 65 гектарах.

Штогод у Мінску памірае каля 13 тысяч чалавек. Праўда, хаваюць на могілках у рысе гораду і непадалёк па-за ёй не ўсіх. Паколькі многія жыхары сталіцы – мінчукі нескарэнныя, сваякі іх адвозяць хаваць на радзіму ў правінцыю. Каля траціны ўсіх памерлых у Мінску крэміруюць. Многія лічаць, што так і танней, і клопату меней. Прычым крэмацыя з кожным годам становіцца ўсё больш папулярнай. А калісьці, у першы год, як пад Мінскам адкрыўся крэматорый, крэміравалі ўсяго 1% нябожчыкаў. У пачатку 1990-ых такія паслугі выбіраліся для 15% памерлых.

**Алена ЛАБАНАВА**

# Аддзел чалавечых трагедый

*Кожны дзень ва ўпраўленні ўнутраных спраў Мінску звяртаюцца прыкладна восем чалавек з заявай аб пошуку зніклых без вестак сваякоў. Звычайна да 85% грамадзян потым пішуць новыя заявы з просьбай спыніць пошукі, бо чалавек знайшоўся.*

### Калі пачынаюць шукаць?

У часы СССР існаваў загад, згодна з якім паўналетняга грамадзяніна пачыналі шукаць толькі пасля трох сутак нявысветленасці яго месцазнаходжання. Па беларускім заканадаўстве такіх абмежаванняў не існуе. Пошукавая справа заводзіцца адразу, і пачынаецца праца сышчыкаў. Зразумела, калі звяртаюцца з просьбай аб пошуку дзіцяці ці падлетка, то міліцыя працуе ва ўзмоцненым рэжыме, а на дапамогу ёй прыходзяць салдаты ўнутраных войскаў і іншых фармаванняў.

### Групы рызыкі

Даволі часта знікаюць у невядомым напрамку падлеткі пасля канфлікту з бацькамі ці настаўнікамі. Сярод падлеткаў бываюць і «сталыя кліенты». Звычайна больш іх з'яўляецца летам: лягчэй выжыць. Бягуць з самых розных сем'яў: і заможных, і бедных. Аб'ядноўвае іх тое, што і там, і там дзеці дрэнна сябе адчуваюць – ад абыякавасці бацькоў да іх ці, наадварот, ад звышпільнасці. Заўважана, што дзеці з забяспечаных сем'яў неўзабаве самі вяртаюцца – перамагае прывычка да камфорту, добрай ежы. А дзеці, якім няма чаго губляць у бацькоўскім доме, бадзяюцца падоўгу. Самы распаўсюджаны спосаб здабыцця грошай у гэтым асяродку – крадзеж аўтамагнітол. Другая група рызыкі – пажылыя людзі.

### Пошукавая справа

Яна распачынаецца на падставе заявы сваякоў ці калег чалавека, месцазнаходжанне якога нікому не вядома. Акрамя падрабязных звестак, дакладных прыкмет неабходна падаць фотаздымак зніклага чалавека. Бывае, што апошні здымак быў зроблены гадоў 10 таму. Сышчыкі пачынаюць працаваць і знаходзяць большасць з гэтых людзей. Апошнім часам грамадзяне даволі часта з'язджаюць на працу ў Расію, не папярэджваючы пра гэта сваякоў. Увогуле, кажучы міліцэйскай мовай, сувязі паміж сваякамі ўсё больш губляюцца...

Горш, калі знаходзяць труп, які «не падыходзіць» пад ніводную заяву аб пошуку. Тады афармляецца «апазнавальная карта». У ёй фіксуецца дата і месца знаходжання трупа. Судмедэксперт вызначае прычыну і дакладны час смерці, па магчымасці здымаюцца адбіткі пальцаў. У карце падрабязна апісваецца знешні выгляд, вызначаецца прыкладны ўзрост. Тамсама – апісанне вопраткі, асабістых рэчаў. Зразумела, робіцца пасмяротныя фотаздымкі. Калі за 30 дзён не ўдаецца высветліць асобу нябожчыка, яго пахаваюць за дзяржаўны кошт на асобным участку могілак, а замест прозвішча будзе толькі нумар.

Шкадуючы нервы карэспандэнта НАШАЙ СВАБОДЫ, старшы оперупаўнаважаны ГУУС Мінгарвыканкаму маёр міліцыі Уладзімір Ждановіч паказаў самыя нястрашныя, на ягоны погляд, апазнавальныя карты. На адной з іх – малады прыгожы хлопец, якога знялі з пятлі. Ён быў багата апрануты, на пальцы – заручальны пярсцёнак, у кашальку – грошы. Судова-медыцынская экспертыза вызначыла, што ніхто не дапамагаў яму лезці ў пятлю. Але ні пашпарту, ні нататніка ў кішэнях не было. Ён ужо пахаваны, а міліцыя працягвае пошук.

### Можна знайсці, але не вярнуць...

Аддзел па пошуку зніклых без вестак людзей без перабольшання можна назваць аддзелам чалавечых трагедый. Але і тут здараюцца кур'ёзы. Напрыклад, пра «дальнабойшчыка», які, атрымаўшы машыну з грузам, загуляў у палюбоўніцы аж на тры тыдні. Яго шукалі і жонка, і кіраўніцтва фірмы.

Ці яшчэ адзін выпадак. Грамадзяніна Ш. не задавальнялі сямейныя адносіны. І ён сабраў рэчы, сышоў з дому. Кінуў старую маці, жонку і дваіх дзяцей. Жонка абівае парогі міліцыі, просіць знайсці мужа. А ён спакойна жыве ў Мінску, здымае тут кватэру. Яго сябры тэлефануюць жонцы і кажуць, каб яна спыніла пошукі, бо ён усё роўна не вернецца ў сям'ю. Зразумела, што міліцыя можа толькі знайсці такога чалавека і супакоіць сваякоў, што ён жывы. А вяртанне ў сям'ю – гэта ўжо іншая праблема, зусім не міліцэйская.

Дарэчы, за беспадстаўны выклік міліцыі ці іншых спецслужбаў прадугледжана адміністрацыйная адказнасць. І толькі калі чалавек, абвешчаны ў вышук, знаходзіцца сам, гэты артыкул Кодэксу аб адміністрацыйных правапарушэннях не дзейнічае. Можа, таму, што прадугледжанае пакаранне – штраф у 10 базавых велічынь – нішто ў параўнанні з выдаткамі на пошук аднаго чалавека?

### Што рабіць?

Супрацоўнікі міліцыі прасілі нагадаць чытачам, каб па магчымасці кожны меў пры сабе які-небудзь дакумент, што сведчыць яго асобу. Добра, калі ў пажылых людзей у некалькіх месцах – кашальку, кішэні – была б свайго роду візітоўка: я такі і такі, у непадзяваным выпадку тэлефануйце сваякам па нумары...

А увогуле, праблема людзей, што не вярнуліся дадому, вялікая. Таму 6 траўня ў Мінску пачало працаваць бюро рэгістрацыі няшчасных выпадкаў. Туды будзе паступаць інфармацыя пра ўсіх «падкідышаў» і ўсе знаходкі.

### Бюро для пошуку людзей

Як паведаміў у час афіцыйнага адкрыцця бюро па рэгістрацыі нясчасных выпадкаў міністр унутраных спраў Уладзімір Навумаў, з пачатку гэтага году ў нашай краіне прапала без вестак 1 200 чалавек. Акрамя таго, ў міліцэйскай картатэцы 70 неапазнаных трупаў. Ідэя стварэння бюро па рэгістрацыі няшчасных выпадкаў належыць Барысу Тарлецкаму, калі ён яшчэ працаваў начальнікам ГУВД Мінгарвыканкаму. Асноўная задача бюро – сканцэнтраваць працу некалькіх службаў адначасова і стварыць адзіную сістэму рэгістрацыі няшчасных выпадкаў. У бюро будзе паступаць інфармацыя з 23 медычных установаў сталіцы і з моргаў, ДАІ, выцвярэзніка, раённых упраўленняў унутраных спраў адносна затрыманых грамадзян нават па артыкулах адміністрацыйнага кодэксу.

Уладзімір Навумаў выказаў падзяку Мінгарвыканкаму і Мінскаму аблвыканкаму за выдзяленне фінансавых сродкаў на гэту структуру. На сённяшні дзень бюро мае два пакоі ў памяшканні на вуліцы Фабрыцыуса,12. Яны абсталяваны камп'ютэрамі, у якіх захоўваюцца ўсе звесткі. У штаце бюро 16 чалавек, сярод іх 12 аператараў – вольнанаёмныя служачыя. Але, улічваючы спецыфіку працы, усе яны, па вызначэнні У.Навумава, маюць «моцныя нервы». Бюро працуе круглыя суткі. Патэлефанаваўшы па мінскім нумары 229-46-12, фізічныя ці юрыдычныя асобы могуць атрымаць звесткі аб пэўным чалавеку.

Дзейнасць бюро распаўсюджваецца на сталіцу і Мінскую вобласць. Пакуль што яно будзе працаваць, так бы мовіць, у эксперыментальным рэжыме.

**Аксана ЯНОЎСКАЯ**



Фота Ул.ШЛАПАКА

# Пратэст літаратараў

*Падзеі вакол стварэння холдынгу «Літаратура і мастацтва», куды ўвайшлі газета з такой самай назвай і часопісы «Полымя», «Нёман», «Маладосць», «Крыніца» і «Всемирная литература», працягваюць разгортвацца скандальным чынам. Шэраг супрацоўнікаў гэтых выданняў, нязгодных з кадравай палітыкай усярэдзіне холдынгу, ужо звольніліся. Некаторыя думаюць зрабіць гэтаксама.*

Нагадаем, што незадавальненне журналістаў і літаратараў выклікалі прызначэнні на кіраўнічыя пасады ў холдынгу Яўгена Новікава, Таісы Бондар і Сяргея Касцяна. Следам адбыліся замены галоўных рэдактараў большасці выданняў, што ўвайшлі ў холдынг. Замест Генрыха Далідовіча ў «Маладосць» прызначылі Раісу Баравікову, замест Сяргея Законнікава ў «Полымі» – Мікола Мятліцкі, замест Алеся Жука ў «Нёмане» – Ніна Чайка, замест Алы Канапелькі ў «Крыніцы» – Вячаслаў Дашкевіч. На сваіх месцах засталіся Алесь Пісьмянкоў, галоўны рэдактар «ЛіМу», ды Таіса Бондар, якая ачольвае *«Всемирную литературу»*.



Фота Ул. ШЛАПАКА

Ужо былыя супрацоўнікі «Крыніцы» Л.Галубовіч і В. Акудовіч

У поўным складзе, апрача фатографа і прыбіральшчыцы, звольніўся калектыў рэдакцыі часопісу «Крыніца». На адмысловай прэс-канферэнцыі, скліканай з гэтай нагоды, начальнік аддзелу культуралогіі часопісу Валянцін Акудовіч агучыў заяву супрацоўнікаў рэдакцыі «Крыніцы». З яе вынікае, што гэты ўчынак зроблены «ў знак пратэсту супраць прызначэння кіраўніцтвам холдынгу «ЛіМ» фігур, варожых беларускай літаратуры і незалежнай Беларусі», а таксама «ў знак пратэсту супраць прымусовага звальнення галоўных рэдактараў часопісаў «Крыніца», «Полымя», «Нёман», «Маладосць».

Следам за «крынічанцамі» з тых самых матываў свае працоўныя месцы пакінулі і намеснікі галоўнага рэдактара «Полымя». Колькі яшчэ тых, хто прыме такое ж рашэнне?

Нікому з супрацоўнікаў новастворанага холдынгу ў далейшым не гарантавана месца працы. Як распавялі ў газеце «Літаратура і мастацтва», з 1 ліпеня абсалютна ўсю рэдакцыю звальняюць, абяцаючы заключыць кантракты наноў. Тлумачыцца, што гэта не больш як фармальнасць пры ўтварэнні на месцы некалькіх юрыдычных асобаў (шасці выданняў) аднаго (холдынгу). Але многія непакояцца, што з няўгоднымі, калі яны дагэтуль самі не сыдуць, як тое зрабілі «крынічанцы», проста не падпішуць кантрактаў. Вырашацца лёс кожнага супрацоўніка холдынгу будзе на «гутарцы» з ягонымі кіраўнікамі.

Месцы тых, хто звольніцца, хутчэй за ўсё, пустымі не застануцца. Штрэйкбрэхеры былі ўва ўсе часы. Знойдуцца яны і ў пісьменніцкіх колах. Таму трывожна за тое, якім будзе ў будучыні змест «ЛіМу», «Полымя», «Нёмана» ды іншых выданняў, якія забіраюць у холдынг. Па-першае, можа быць уведзена цэнзура, па-другое, вельмі верагодны байкот холдынгавых выданняў з боку значнай колькасці беларускіх літаратараў. Між тым у пісьменніцкіх колах абмяркоўваецца магчымасць стварэння новага літаратурна-мастацкага часопісу. Досвед удалага існавання незалежных культурніцкіх часопісаў у Беларусі ёсць. Зараз гэта, напрыклад, і «Спадчына», і «ARCHE».

**Кірэй МАНУЙЛА**

# На «Беларусьфільме» прадаюць ролі

Творчая група, якая працуе над гістарычным фільмам «Анастасія Слуцкая», знайшла арыгінальны спосаб прыцягнуць на здымкі гэтай кінакарціны дадатковыя сродкі. Вырашана прадаць шэраг роляў.

Заможным людзям прапануецца набыць адмысловыя лоты, якія будуць выстаўленыя на аўкцыёне. Гэта дзесяць лотаў – дзесяць эпізадычных роляў. Стартавыя кошты – ад 500 да 1 000 даляраў. Пакупнікам лотаў гарантуецца канфідэнцыйнасць. Здымачная група «Анастасіі Слуцкай» спакушае бізнесоўцаў не толькі магчымасцю зняцца ў кіно і зрабіць рэкламу сваёй фірме, але яшчэ і стаць мецэнатам. Грошы ад аўкцыёну пойдуць на шыццё старажытных строяў і выраб дэкарацый. Не выключана таксама, што для здымкаў «Анастасіі Слуцкай» будзе створаны спецыяльны фонд, куды змогуць перадаць свае ахвяраванні ўсе ахвочыя дапамагчы нацыянальнаму кінематографу.

Рэжысёр фільму Юрый Елхаў мусіў пайсці на правядзенне аўкцыёну, каб зарабіць грошай на «Анастасію», не ад добрага жыцця. Нагадаем, як разгортваліся дагэтуль падзеі вакол карціны, якую і кінастудыя «Беларусьфільм», і Міністэрства культуры абяцалі зрабіць сапраўдным узорам гісторыка-патрыятычнага нацыянальнага кіно. Указам прэзідэнта на фільм быў выдаткаваны 1 мільён 400 тысяч рублёў, тады – мільён даляраў, а на рэжысёра запрасілі Уладзіміра Янкоўскага, вядомага як прафесійнага кліпмейкера, сына народнага артыста СССР Расціслава Янкоўскага. Ён меркаваў, што каштарыс фільму павялічыцца яшчэ ў некалькі разоў, аднак гэтага не адбылося, і рэжысёр мусіў пастарацца ўкласціся ў тыя грошы, што выдзелілі. А цяпер гэта ўжо далёка не мільён даляраў, як было спачатку. Не дзіва, што Уладзімір Янкоўскі не стаў займацца прафанацыяй і адмовіўся ад рэжысёрства.

Замену Янкоўскаму знайшлі ў асобе Юрыя Елхава, вядомага больш як аператара. Ён здымаў такія карціны, як «Прыгоды Бураціна», «Пра Чырвоны Каптурык», «Наш бронецягнік», «Сын за бацьку».

Што да самога фільму, то ягоны сцэнарый значна змяніўся. Так, з «Анастасіі Слуцкай» выразалі батальныя сцэны, у якіх мусілі здымацца некалькі тысяч чалавек, коні, гарматы. Апроч таго, цяпер ніхто і не думае будаваць цэлы драўляны горад Слуцк. Карацей, фільм пазбавіўся маштабнасці. Такім чынам, ужо загадзя можна прадбачыць, што ў гэтым сэнсе наша экранізаваная гісторыя пра подзвіг княгіні Анастасіі, якая абараніла Слуцк ад татарскай навалы, саступіць і польскаму фільму «Агнём і мячом», і ўкраінскаму «Мазепу».



Фота Ул. ШЛАПАКА

Здымачная група, што працуе над «Анастасіяй Слуцкай», спадзяецца, што на гэты фільм з дзяржбюджэту будуць выдаткаваныя дадатковыя сродкі, бо цяперашніх не хопіць нават на парэзаны сцэнарый. Але ці не атрымаецца так, як было ў свой час з карцінай набожнага Міхаіла Пташука «У жніўні 44-га...», калі многія рэжысёры засталіся без працы і крыўдавалі на тое, што ўсе сродкі аддалі на адзін блокбастэр?

**Мар'ян КАРЫМОНТ**

# Тэатр адкрывае кулісы

23 траўня на малой сцэне Нацыянальнага акадэмічнага тэатру імя Янкі Купалы адкрыецца «Тэатр п'есы». Пра гэта паведаміў дырэктар тэатру Генадзь Давыдзька. Распачнецца «Тэатр п'есы» чытаннем «П'емонцкага звера» маладога драматурга Андрэя Курэйчыка.

Паводле слоў Г.Давыдзькі, чытанне п'ес у дзвюх асобах – новая форма для Купалаўскага. Яна ўжо даўно бытуе ў розных іншых тэатрах, у асноўным – замежных, і некалі выпрабоўвалася ў Рэспубліканскім тэатры беларускай драматургіі. Чытанні звычайна праходзяць за кулісамі і недаступныя шырокаму колу гледачоў. Спектакль-чытанне ў выкананні артыстаў-купалаўцаў «з ліста», без дэкарацый і тэатральных строяў будзе адкрытым для публікі. Рашэнне адкрыць «Тэатр п'есы», паведаміў Г.Давыдзька, было абумоўлена тым, што «дзяржаве ўсё цяжэй фінансаваць мастацтва». Праз гэта тэатр не можа штогод паказваць шэсць прэм'ер, як раней, хаця гэта і неабходна рабіць у такім «вялікім тэатры, як Купалаўскі». Паводле ягоных слоў, у наступным годзе тэатр плануе паказаць 2–3 прэм'еры: у прыватнасці, спектакль «Страчаны рай» па п'есе А.Курэйчыка, грошы для пастаноўкі якога павінны выдзеліць з прэзідэнцкага фонду.

Мэту творчага праекту яго ініцыятары вызначаюць так: даць магчымасць прадэманстраваць свае творы як мага большай колькасці таленавітых драматургаў, адкрыць шлях на сцэну новым яркім творам пра сучаснасць, а гледачам – дазволіць далучыцца да першых крокаў нараджэння спектаклю.

**Маша ПЯТРОВА**

# Паліфанія веравызнанняў

Палова беларусаў уважае сябе за вернікаў. Гэткую выснову зрабілі ў Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі, правёўшы адмысловае сацыялагічнае апытанне. На 1 студзеня 2002 году ў нашай краіне дзейнічалі 2 774 суполкі, што належаць да цэлага шэрагу канфесіяў. Сярод іх пераважаюць праваслаўныя, што маюць 1 224 суполкі, далей ідуць хрысціяне веры евангельскай і каталікі – адпаведна 491 і 482. Ва уніятаў 14 абшчын, у мусульман – 26, мармонаў – 3.

**Кірэй МАНУЙЛА**

## НАГОДА ЎСПОМНІЦЬ

### 17 траўня

**1302.** Рамеснікі гораду Бругге ўзнялі паўстанне супраць французаў, з якога пачалася вызвольная вайна ў Фландрыі.

**1787.** З-за моцнага ветру перавярнуўся ангельскі карабель, на якім з Афрыкі на Кубу перавозіліся рабы. Загінула каля 300 чалавек.

**1792.** Схаваўшыся ад сонца пад вялікім платанам, 24 нью-ёркскія брокеры дамовіліся паміж сабой пра расцэнкі. Гэтае пагадненне («Платанавы пакт») стала грунтам для стварэння Нью-Йоркскай фондавай біржы на Уол-стрыт.

**1846.** Бельгійскі майстар Адольф Сакс запатэнтаваў саксафон.

**1975.** Тэлеканал *NBC* заплаціў 5 мільёнаў даляраў за правы аднаразовага паказу фільму «Знесеныя ветрам»

**1997.** Пол Макартні атрымаў праз інтэрнэт за паўгадзіны аж 3 мільёны пытанняў.

### 18 траўня

**1872.** Нарадзіўся Бертран Расэл, англійскі філосаф, матэматык. Атрымаў Нобелеўскую прэмію па літаратуры – у 1950 годзе за кнігу «Непапулярныя эсэ». Вось што піша Расэл у сваёй трохтомнай «Аўтабіяграфіі»: «Тры жарсці, простыя, але моцныя, я пранёс праз усё жыццё: прагу кахання, навуковы пошук і невыносную спагаду да пакутаў».

**1927.** Амерыканская кіназорка Норма Талмадж выпадкова пакінула адбітак сваёй ступні на яшчэ незастылым асфальце. Адгэтуль бярэ карані ідэя стварэння ў Галівудзе алеі з адбіткамі ног кіназорак.

**1982.** У справаздачным дакладзе на XIX з'ездзе камсамолу ягоны кіраўнік згадаў імя Леаніда Брэжнева аж 38 разоў.

**1997.** Ірландка Брыджыт Дырэн атрымала дыплом з аднакай Нацыянальнага універсітэту ў 102 гады.

### 19 траўня

**1928.** У каліфарнійскім горадзе Калаверас адбыліся першыя Гульні жабаў па скачках у даўжыню. Перамагла жаба, якая скочыла на 101,6 сантыметра і апярэдзіла 49 канкурэнтак.

### 20 траўня

**1742.** Расійскі штурман Сямён Чалюскін на сабаках дасягнуў мысу, які пазней быў названы мысам Чалюскіна, – паўночнага канца Еўразіі.

**1772.** Нарадзіўся Уільям Конгрыў, англійскі артылерыст. Ён распрацаваў некалькі тыпаў парахавых ракет, якія былі выкарыстаны падчас напалеонаўскіх войнаў.

**1882.** Нарадзілася Сігрыд Унсет, нарвежская пісьменніца, нобелеўскі лаўрэат 1928 году.



**1912.** Пайшоў з жыцця польскі пісьменнік Баляслаў Прус.

**1922.** Дата стварэння Усесаюзнай піянерскай арганізацыі імя Леніна.

**1927.** Амерыканскі пілот Чарльз Ліндберг зрабіў першы беспасадачны пералёт цераз Атлантыку.

**1932.** На сходзе пісьменніцкага актыву СССР упершыню ўведзены тэрмін «сацыялістычны рэалізм».

### 21 траўня

**427 да н.э.** Адна з верагодных датаў нараджэння грэцкага філосафа Платона.

**1502.** Іспанскі мараход Жуан да Нова адкрыў выспу Святой Алены, што знаходзіцца на адлегласці 1 950 кіламетраў ад Афрыкі і мае плошчу 122 квадратныя кіламетры. Выспай валодалі партугальцы, галандцы, брытанцы. Выспа Святой Алены знакамітая тым, што ў 1815 годзе на яе быў сасланы і тут памёр Напалеон.

**1542.** Памёр іспанскі канкістадор Эрнанда дэ Сота, які быў валадаром на Кубе. Шмат часу ён прабавіў у пошуках скарбаў індзейцаў, якія не знайшоў, але затое адкрыў цэлы шэраг буйных рэк Амерыкі, у тым ліку Місісіпі.

**1547.** Пажар у Рызе. Згарэла паўгораду, у тым ліку званіца знакамітага Домскага сабору.

**1892.** У Кіеве пушчаны першы ў Расійскай імперыі электрычны трамвай.

**1997.** На аўкцыёне Сотбі 18 тысяч пляшак віна з калекцыі Вебера былі прададзены за 6 мільёнаў даляраў. Гэта рэкордны распродаж віна.

### 22 траўня

**337.** Памёр Канстанцін I Вялікі, рымскі імператар ад 306 году. Заснаваў новую сталіцу Рымскай імперыі – другі Рым. Гэта Канстанцінопаль, цяпер – Стамбул. На яго будаўніцтва былі патрачаны вялізныя сродкі, у прыватнасці, 30 тонаў золата на гарадскія муры, каланады і водаправоды. З Рыму ў Канстанцінопаль перавезлі мноства выдатных твораў мастацтва.

**1972.** Р.Ніксан стаў першым прэзідэнтам Злучаных Штатаў, які пабываў у СССР.

**1972.** Новая канстытуцыя, прынятая на Цэйлоне, вызначыла новую назву выспы і дзяржавы на ёй – Шры-Ланка.



**1977.** Адбыўся апошні рэйс слыннага «Усходняга экспрэсу», якім з 1883 году падарожнікі ездзілі па маршруце Парыж–Стамбул.

### 23 траўня

**1592.** У Венецыі інквізіцыя арыштавала па абвінавачванні ў ерасі Джардана Бруна.

**1707.** Нарадзіўся шведскі прыродазнаўца, стваральнік класіфікацыі расліннага і жывёльнага свету Карл Лінэй. Ён быў першым прэзідэнтам шведскай Акадэміі навук.

**1877.** Абвяшчэнне поўнай незалежнасці румынскага княства ад Турцыі.

**1934.** Нарадзіўся Роберт Муг, вынаходнік музычнага сінтэзатару.

**1937.** Памёр Джон Ракфелер, амерыканскі мільянер, заснавальнік першага трэсту-гіганта – нафтавай кампаніі «Стандарт ойл». У свой час яна мела кантроль над 90% нафтаперапрацоўчых заводаў ЗША.

**1987.** У СССР перасталі глушыць урадавую амерыканскую радыёстанцыю «Голас Амерыкі», што вяшчае з 1942 году на замежныя краіны.

**Падрыхтаваў Кірыла ПАЗЬНЯК**

СПОРТ

## Славацкі трыумф

Услед за зборнай Беларусі, чацвёртае месца якой на хакейных турніры Алімпіяды ў Солт-Лэйк-Сіці зрабіла сапраўдную сенсацыю, хакейных балельшчыкаў здзівіла каманда Славакіі, заваяваўшы залатыя медалі на чэмпіянаце свету.

Фінал чэмпіянату атрымаўся наогул нечаканым: Славакія–Расія. Гэтыя зборныя на шляху да галоўнай гульні турніру выйгралі ў фаварытаў, сярод якіх фіны, шведы, чэхі. Упарты матч завершыўся з лікам 4:3 на карысць славакаў, перамогу якім прынёс энхаелавец Петар Бондра за паўтары хвіліны да канца сустрэчы. Гэтае першае золата зборнай Славакіі на хакейных чэмпіянатах свету стала сапраўдным трыумфам, які радасныя жыхары Браціславы некалькі дзён адзначалі на вуліцах славацкай сталіцы. А вось расейцы спыніліся за адзін крок ад жаданага золата, якога яны не выйгравалі аж з 1993 году.

У сімвалічную зборную чэмпіянату ўвайшлі галкіпер Максім Сакалоў (Расія), абаронцы Томас Радзін (Швецыя) і Рыхард Лінтнер (Славакія), нападнікі Міраслаў Шатан, Петар Бондра (абодва са Славакіі), Ніклас Хагман (Фінляндыя).

Нагадаем, летась чэмпіёнамі свету сталі хакеісты Чэхіі, таму зараз адмысловцы загаварылі пра эру чэхаславацкага хакею.

**Кірэй МАНУЙЛА**

## Трагедыя Валерыя Лабаноўскага

У мінулы панядзелак вечарам у Запарожжы, не вярнуўшыся да прытомнасці, ад інсульту памёр легендарны трэнер кіеўскага «Дынама», зборных Украіны і Савецкага Саюзу Валерый Лабаноўскі. Яму было 63 гады.

7 траўня падчас матчу «Дынама» з запарожскім «Металургам» Лабаноўскага адвезлі ў клініку проста з футбольнага поля. Украінскія дактары пяць дзён змагаліся за жыццё трэнера.

11 траўня Лабаноўскаму зрабілі аперацыю пасля паўторнага кровазліцця ў мозг. Аднак у панядзелак у 20:35 трэнер сканаў.

Валерый Лабаноўскі нарадзіўся 6 студзеня 1939 году, пачаў кар'еру футбаліста ў кіеўскім «Дынама» ў 1958 годзе. Ён стаў чэмпіёнам СССР у складзе гэтага клубу ў 1961 годзе, а перад тым, у 1960, – сярэбраным прызёрам. У розныя перыяды таксама гуляў за адэскі «Чарнаморац» і данецкі «Шахцёр».

У 1969 годзе Лабаноўскі пачаў працаваць трэнерам у днепрапятроўскім «Дняпры», а ў 1974-м ачоліў кіеўскае «Дынама». З гэтай камандай ён 8 разоў рабіўся чэмпіёнам СССР і 6 разоў браў кубак Саюзу.

Менавіта дзякуючы яму савецкі футбол упершыню атрымаў сусветнае прызнанне. У якасці трэнера зборнай СССР браў 2-е месца на чэмпіянаце



Еўропы 1988 году і 3-е месца на Алімпіядзе 1976. З «Дынама» Лабаноўскі здабыў сабе два Кубкі Кубкаў і Суперкубак УЕФА. У розныя перыяды жыцця трэніраваў зборных Аб'яднаных Арабскіх Эміратаў і Кувейту.

У 1996 годзе Лабаноўскі пасля вялікага перапынку ўзначаліў кіеўскае «Дынама» і прывёў клуб да поспехаў у еўрапейскіх клубных турнірах. Менавіта ён выгадаваў зорак сучаснага ўкраінскага футболу – Андрэя Шаўчэнку, Сяргея Раброва і Алега Лужнага.

Пасля разгромнай паразы зборнай Украіны ў адборачным матчы чэмпіянату свету 2002 году са зборнай Нямеччыны Лабаноўскі сышоў з пасады галоўнага трэнера зборнай Украіны.

**BBCRussian.com**

# Хвароба глушыць голас Паварoці

*Усё здарылася ў адзін вечар – вечар закрыцця сезону Нью-Йоркскай «Метрапалітэн-Опера». Як паведамляе* Independent Online, *Паварoці, спаслаўшыся на грып, адмяніў выступ на закрыцці сезону, тым самым саступіўшы гэтае ганаровае права 33-гадоваму спеваку з Сіцыліі Сальватарэ Лічытра.*

І сіцыліец не схібіў, падарыўшы найлепшы ў сваім жыцці выступ 4 тысячам гледачоў і яшчэ 3 тысячам слухачоў, якія назіралі за выступам на гіганцкім экране, усталяваным на цэнтральнай плошчы Лінкальна. Як сцвярджаюць відавочцы, па заканчэнні выступу гледачы зладзілі 20-хвілінную авацыю.

Так нечакана завершылася кар'ера Паварoці ў «Метрапалітэн-Опера». Кар'ера, якая пачалася ў 1968 годзе, калі ягоны «зменшчык» Лічытра толькі з'явіўся на свет. У афіцыйным прэс-рэлізе, які быў распаўсюджаны сакратаром Паварoці, гаворыцца, што 66-гадовы тэнар



вельмі просіць прабачэння ў паклоннікаў, і яму самому вельмі прыкра, што ў сувязі з хваробаю ён мусіў адмовіцца ад выканання партыі ў «Тосцы» Пучыні. Паварoці ўпэўнены, што адмена выступу не адаб'ецца на любові публікі. Больш за тое, тэнар заявіў, што было б горш, калі б ён спрабаваў спяваць, не маючы з-за хваробы магчымасці ўкласці ў выкананне ўсе эмоцыі.

Зрэшты, эмоцыі Паварoці не адбіліся на рашэнні кіраўніцтва «Метрапалітэн-Оперы». Генеральны прадзюсер тэатру Джозеф Волп даў зразумець, што Паварoці не вернецца на сцэну славутай «Мет». Паводле словаў генпрадзюсера, яшчэ ў 17:15 вялікі тэнар сцвярджаў, што будзе спяваць, але да 19:10 яго настрой або здароўе моцна змяніўся, і Волпу было сказана: «Выбачай, мой сябар, але я не буду спяваць». На што Волп адказаў: «Гэтае рашэнне – дарога да заканчэння твае выдатнае кар'еры». Нагадаем, што да моманту скандалу Паварoці даў 373 прадстаўленні на сцэне «Метрапалітэн-Опера», выканаўшы 20 роляў у розных пастаноўках.

А ўжо пазней стала вядома, што Лучана Паварoці можа неўзабаве завяршыць кар'еру опернага спевака з-за праблемаў са здароўем. «Калі так будзе працягвацца, то мне нічога не застанецца, як сысці», – сказаў ён у інтэрв'ю італьянскім журналістам. «Час, калі я буду вымушаны прыняць рашэнне аб «адстаўцы», насоўваецца шпарка. Гэта – найцяжэйшае для мяне рашэнне, бо я не ведаю, ці настаў ужо момант сыходу, ці яшчэ не».

# Хуткая ежа ці марудная смерць?

## *Шведскія біяхімікі не давяраюць якасці чыпсаў*

*Шведскія навукоўцы высветлілі, што бульбяныя чыпсы, бульба фры і гамбургеры ўтрымліваюць такую колькасць канцэрагенаў, што іх фанаты практычна асуджаны на розныя анкалагічныя захворванні альбо, як мінімум, на нервовыя расстройствы.*

Даследаванні праводзіліся ў Стакгольмскім універсітэце. А канцэраген, які ўтвараецца ў згаданых прадуктах, – акрыламід. Прычына ягонага ўтварэння – награванне багатай на вугляводы ежы, прычым гэтае правіла, аказваецца, распаўсюджваецца і на рыс – прадукт, які традыцыйна лічыцца дыетычным.

Шакуе ў адкрыцці шведскіх біяхімікаў той факт, што колькасць канцэрагену ў звычайным пакуначку з чыпсамі перавышае максімальна дапушчальную канцэнтрацыю, вызначаную Сусветнай арганізацыяй здароўя для пітной вады, у 500 разоў. У бульбе фры і бургерах, што прадаюцца ў Макдональдсе, канцэнтрацыя перавышае норму ў 100 разоў.

Па словах Ліва Букса, які ўзначальвае дэпартамент даследаванняў у шведскай Нацыянальнай харчовай адміністрацыі, за ўвесь час сваёй 30-гадовай спецыялізацыі ў «харчовай» сферы яму «такога бачыць не даводзілася».

Неверагоднасць і значнасць навіны вымусіла даследчыкаў адступіць ад традыцыйнага шляху кожнага навуковага адкрыцця: спачатку рэцэнзіі калег, потым публікацыі ў спецыялізаваных выданнях, а ўжо потым «кантакт з грамадскасцю». Палічыўшы, што гаворка вядзецца пра бомбу запаволенага дзеяння, шведы вырашылі найперш арганізаваць прэс-канферэнцыю.

Акрыламід – гэта белае ці празрыстае крысталічнае рэчыва, якое распускаецца ў вадзе. Вядома, што яно шкодна ўплывае на нервовую сістэму і, па дадзеных анколагаў, бывае прычынай генетычных мутацыяў і ўтварэння пухлінаў у брушной поласці. Гэтыя дадзеныя былі атрыманыя шляхам назірання за жывёламі.

Аналіз паказаў, што акрыламід утвараецца пры награванні прадуктаў. Падгрэтая бульба ўтрымлівае канцэрагену ў 12–40 разоў болей, чым падагрэты гамбургер. Калі тыя самыя прадукты варыць, а не смажыць і не награваць у духоўцы, канцэрагены не ўтвараюцца зусім.

Звестак пра тое, чым адрозніваецца бульба фры, прыгатаваная ў хатніх умовах, ад «фірмовай» і ці распаўсюджваецца «канцэрагеннае правіла» на звычайную смажаную бульбу, а таксама – ці бяспечна, у такім выпадку, выпякаць хлеб, пакуль няма. Нагадаем, што, па самых сціплых падліках, штогод чыпсаў прадаецца ў свеце на 2 мільярды даляраў.

**Membrana.ru**

## Макдональдс стане інтэрнэт-рэстаранам

Сетка рэстаранаў хуткага харчавання займее ўласны доступ у інтэрнэт. Такая паслуга ўводзіцца ў рэстаранах Макдональдс, размешчаных у Японіі, бо ўзровень інтэрнэтызацыі насельніцтва ў гэтай краіне адзін з найвышэйшых у свеце. Як паведамляе *BBC* са спасылкаю на японскую *Nihon Keizai Shimbun*, Макдональдс афіцыйна яшчэ не заявіў пра распрацоўку праекту. Паводле ж чутак, сетка рэстаранаў хуткага харчавання ў найбліжэйшай будучыні прапануе сваім наведнікам якасны інтэрнэт. Пагадненне, у якім будзе ўдзельнічаць інтэрнэт-інвестар кампанія *Softbank*, ахопіць амаль 4 000 японскіх рэстаранаў хуткага харчавання. Партнёрства дазволіць Макдональдсу прыцягваць больш кліентаў, а *Softbank* атрымае ад здзелкі па ўкараненні высакахуткаснага доступу магчымасць пашырыць свой бізнес. Выпрабаванне абсталявання *Softbank*'у ў рэстаранах Макдональдс пачнецца, як мяркуюць, ужо ў гэтым месяцы.

# Астралагічны прагноз

## ад Веранікі Кудраўцавай на 17 – 23 траўня

***Астрапрагноз адлюстроўвае агульны прыродны сацыяльна-псіхалагічны фон накшталт прагнозу надвор'я. Індывідуальнае прагназаванне грунтуецца на дакладных звестках: улічваецца дзень, месяц, год, месца і час нараджэння чалавека.***



**АВЕН.** У гэтыя выходныя з вас можа атрымацца геніяльны «прадавец паветра». Існуе два варыянты: ці вы адпачываеце ў мілай кампаніі, траціце грошы на забавы і духоўны камфорт, ці зарабляеце грошы на інфармацыйных тэхналогіях, пасярэдніцкіх паслугах. Але пастарайцеся, каб у панядзелак і аўторак родныя не мелі да вас прэтэнзіяў.



**ЦЯЛЕЦ.** Калі вы да выходных не ўзнімеце пытання пра аплату працы або неабходныя для вас набыткі, то потым прыйдзецца доўга сядзець ды на неба глядзець. Ва ўсякім разе, у панядзелак і аўторак пажадана ўвогуле не закранаць гэтай тэмы, могуць быць рознага роду фінансавыя страты, крадзяжы. Адзюльтэр – уласны ці блізкіх сваякоў – не пусты гук у мелодыі тыдня.



**БЛІЗНЯТЫ.** Успрымаецца ўсё лягчэй, нягледзячы на некаторы сямейны крызіс. Пад выходныя будуць намёкі на тое, каб высока ўзляцець: тычыцца гэта альбо саліднага становішча, альбо культурніцкіх, духоўных дасягненняў. У некага можа быць тэрміновае перспектыўнае падарожжа. У панядзелак і аўторак непажадана займацца фінансавымі пытаннямі, засцеражыцеся ад крадзяжоў.



**РАК.** Бадай, самыя непрыемныя моманты мінулі, засталося чакаць рашэння па вашым пытанні. У выходныя верагодна прыемнае спатканне, экзотыка ў стасунках. Але пастарайцеся паводзіць сябе карэктна. У панядзелак і аўторак вас могуць папрасіць саступіць у нейкіх прынцыпах дзеля чалавека, які выклікае чыесьці сімпатыі. І ў гэтым зашыфравана пэўная падступнасць.



**ЛЕЎ.** Вы, мабыць, пераканаліся: малыя дзеткі – малыя бедкі, вялікія дзеткі – вялікія бедкі. Тое ж тычыцца і творчых праектаў. Зараз, у гэтыя выходныя, можаце дазволіць сабе трохі расслабіцца, правесці з сужэнцам ці сябрам лёгкія забаўляльныя мерапрыемствы. Дайце адпачынак сваім пачуццям. У панядзелак і аўторак не рэкамендуюцца валютныя аперацыі.



**ПАННА.** У родных сценах цяжкая атмасфера, але гэта ўжо не тое, што было раней. У выходныя чакаецца палёгка ў бытавой частцы жыцця, поспех і добрыя перамены ў медыцынскай сферы. Гэтымі днямі вы цалкам у стане прабіць сабе льготы, намеціць перспектыўныя віды дзейнасці. Калі думаеце рызыкнуць, улічыце, што ў панядзелак і аўторак не пройдуць аніякія «а можа».



**ШАЛІ.** Свет успрымаецца ў фарбах, кроў бурліць, і чаму б выходнымі не пашпацыраваць, не сабрацца ў кампанію, не абмеркаваць з кім-кольвечы перспектывы творчай дзейнасці. Вам можа пашанцаваць самым нечаканым чынам. Збірайце ўсмешкі, добры настрой і авансы ў каханні. У панядзелак і аўторак непажадана зводзіць рахункі з сужэнцам ці сябрам, асабліва ў грашовых пытаннях.



**СКАРПІЁН.** Усё яшчэ адчуваецца недахоп сілаў, сродкаў. Але з'яўляецца надзея на тое, што ў выходныя шанец не абыдзе бокам і сутыкне з будучым сужэнцам ці неабходным чалавекам, які прынясе радасць у дом. Выдатна праходзіць дызайн у хаце. У панядзелак і аўторак ёсць сэнс прыслухацца да размоваў пра справы на працы ці пра стан здароўя.



**СТРАЛЕЦ.** Усё яшчэ адчуваецца ціск фінансавых абавязанняў ці сямейных цяжкасцяў. Аднак выходнымі, магчыма, атрымаеце каштоўную параду ці звесткі, якія абнадзеяць. У сужэнца адкрываюцца перспектывы праславіцца, шанец вывучыць норавы і звычаі іншаземцаў. У панядзелак і аўторак жаданне спакусіць прывабнага чалавека можа выйсці бокам.



**КАЗЯРОГ.** Калі ў вас раней не ішлі справы праз выкананне даўгавых абавязанняў ці праз стан здароўя, то цяпер крызіс, падобна, мінуўся. Выходнымі нехта зоймецца цікавай справай, і не выключана, што атрымаеце сюрпрыз. Энергіі паболее, следам хутка надойдзе ўсплёск пачуццяў. У панядзелак і аўторак не турбуйцеся праблемамі родных ці кватэрнымі справамі, бо можа папросту не пашанцаваць.



**ВАДАЛІЎ.** Калі нават няма падставы, выходнымі варта ўнесці свята ў дом, пазбавіцца ад звычных стэрэатыпаў у адносінах сярод блізкіх. Хто ведае, можа, у сэрцы нечакана ўспыхне каханне, вы адчуеце сябе маладым і вясёлым. Будзе адпачынак душы, стомленай ад любоўнай недастатковасці. На працы ў панядзелак і аўторак лепш не ўступаць у інтрыгі.



**РЫБЫ.** Калі вам па душы прафесія і становішча, мацней трымайцеся за крэсла. У выходныя вы можаце трапіць у хатні аазіс, адчуць аджыўленне надзеяў, атрымаць асалоду ад творчага патоку ці проста задавальненне ад прыроды. Пры гэтым ніякіх фізічных нагрузак, пашкадуйце сэрца. У панядзелак і аўторак нехта гатовы ціснуць на літасць, спрабуючы несумленным чынам выцягнуць грошы.

Галоўны рэдактар **Павел ЖУК**

© НАША СВАБОДА. Спасылка на газету НАША СВАБОДА абавязковая. Рэдакцыя можа не падзяляць меркаванні аўтараў, публікаваць артыкулы дзеля палемікі.
Адрас: г.Мінск, вул. Рафіева, д.25, корп.1. Пасведчанне аб рэгістрацыі № 1289. Выдаецца з 25 лютага 2000 г. Заснавальнік Зміцер Жук.
Выдавец – рэдакцыя газеты НАША СВАБОДА. E-mail: NPSvaboda@irex.minsk.by Надрукавана з дыяпазітываў заказчыка на паліграфічным РУП «Чырвоная звязда»
220073, г. Мінск, Першы загарадны завулак, 3. Заказ №1149 Нумар падпісаны ў друк 16/05/2002 (12:00) Наклад – 6.900